КУЛЬТУРА › ГРАМАДСТВА › ЭКАНОМІКА ›
ЛЮДЗІ › ПАДЗЕІ › ФАКТЫ

‹ № 48 (320) ‹ 14 снежня ‹ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10048



**ПЛАН «ВОСТРАЯ БРАМА»**

Стар. 15

**НА РАСПРОДАЖ ЗА МЯЖУ ЦІ Ў ІНТЭРНЭТ**

Дзяржаўнае кіраўніцтва з усіх сіл стараецца, каб беларусы «любілі сваё», а яны — няўдзячныя! — не задаволеныя і цэнамі, і асартыментам, і мясцовай палітыкай шопінгу.

Стар. 5

**УГА ЧАВЕСА ЗАМЕНІЦЬ НІКАЛАС МАДУРА**

Калі верыць мексіканскаму ўрачу, Чавесу засталося 3–4 месяцы. Паводле канстытуцыі, прэзідэнцкія выбары ў такім разе мусяць адбыцца напрацягу 30 дзён.

Стар. 13

**БЕЛАРУСКІЯ КОЛЕРЫ «ПАРЫЖСКАЙ ШКОЛЫ»**

Стар. 14

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**КАЛЯДЫ, ЯКІЯ ПРЫПЫНІЛІ ВАЙНУ**

Нарыс Ігара Мельнікава

АД РЭДАКТАРА

# АТРЫБУТЫ ЎЛАДЫ — ТОЛЬКІ ЛАЯЛЬНЫМ

Вольга ХВОІН

**Ідэі ад вышэйшага кіраўніцтва ў галіне кадравай палітыкі ўражваюць свежасцю ды арыгінальнасцю: пра прыгоннае права ўжо забыліся, ды і каштоўнасць партбілета ведаюць далёка не ўсе. Таму, кіруючыся прынцыпам, што новае — гэта добра забытае старое, беларускі кіраўнік раздае настаўленні, якія прымушаюць нас хаця б прыгадаць ужо пройдзены досвед.**




Спачатку была агучана забарона звальняцца работнікам дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў канцэрну «Беллеспаперпрам» да канца іх мадэрнізацыі. А 10 снежня на сустрэчы з першым сакратаром Цэнтральнага камітэта ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» Ігарам Бузоўскім Аляксандр Лукашэнка заявіў, што членскі білет гэтай праўладнай грамадскай арганізацыі ёсць пропускам для службы ў сілавых структурах. Калі быць лаяльным, то да рэшты.

«Я не збіраюся ад каго-небудзь утойваць: мы падтрымліваем і будзем падтрымліваць наш саюз моладзі, — падкрэсліў Лукашэнка. — Камусьці ён падабаецца, камусьці не падабаецца, але прыкладна паўмільёна чалавек сёння з’яўляюцца рэальнымі членамі Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, якія маюць членскія білеты і плацяць унёскі. І няхай гэта невялікія ўнёскі, вялікія і не трэба, можа, цяпер, хто хоча больш дапамагчы, той дапаможа, справа не ва ўнёсках, але гэта рэальная колькасць. Я працаваў у камсамоле ў савецкія часы і разумею, што не ўсё адназначна ў арганізацыі, бо гэта моладзь, і гэтым усё сказана. Моладзь ёсць моладзь».

Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на тое, што БРСМ, як і арганізацыя «Белая Русь», — рэзерв кадраў. «У частцы Камітэта дзяржбяспекі, МУС, усіх праваахоўных органаў мы выйдзем на тое, што патрэбна будзе рэкамендацыя Саюза моладзі, каб працаваць на гэтай ніве, і таму ў гэтым плане будзе ўзмацняцца роля моладзевай арганізацыі», — сказаў ён.

Атрымліваецца, цяпер, як і ў савецкі час, прасоўванне па кар’ернай лесвіцы ў дзяржструктурах абумоўлена сяброўствам у БРСМе ці «Белай Русі», незалежна ад таго, ці насамрэч падтрымлівае чалавек іх ідэі. Сяброўства ж у такой арганізацыі, як «Малады фронт», пагражае турэмным зняволеннем, праблемамі на працы ці ў вучобе, ды і ўвогуле статусам ледзьве не крымінальніка.

Гэтую «фішку» многія маладыя людзі добра зразумелі, і некалькі знаёмых (хай сабе гэта будзе і не рэпрэзентатыўным апытаннем) прызналіся, што на ідэйныя справы ім глыбока напляваць — у цане прагматычны разлік. Членскі білет БРСМа дае магчымасць з ільготамі хадзіць на дыскатэкі, у цырульню ці мець доступ яшчэ да нейкіх дабротаў. Натуральна, сярод сябраў гэтых грамадскіх арганізацый ёсць людзі, якія сапраўды вераць у ідэі і мэты, што дэкларуюцца іх статутамі. Але фактычна прымусовы падыход да пашырэння колькасці членаў грамадскай арганізацыі (хаця ў беларускім заканадаўстве прапісаны прынцып добраахвотнасці ў такіх справах) насамрэч не ўзмацняе структуру, а толькі робіць яе масавай. Прычым, фармальна масавай. Гэта зручна для кантролю і ідэйнай апрацоўкі людзей, але ў выпадку першага ж «шухеру» гэтыя намінальныя сябры спакойна пакладуць партбілеты на стол.

Між іншым, Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі някепска фінансуецца дзяржавай. Так, летась БРСМ атрымаў з бюджэту 20,5 мільярда рублёў. Дзяржфінансаванне моладзевай арганізацыі было на мільярд рублёў меншым, чым апарата Савета Міністраў, якому вылучылі 21,7 мільярда рублёў. А, напрыклад, Беларускаму фонду падтрымкі прадпрымальнікаў у 2011 годзе дасталася 655 мільёнаў рублёў.

Дарослы варыянт БРСМу — ГА «Белая Русь» — таксама цяпер выконвае функцыю кадравага рэзерву ды гатовая ў патрэбны момант трансфармавацца ў палітычную партыю. Хаця, па вялікім рахунку, гэтая арганізацыя ўжо цяпер мае ўстойлівую палітычную афарбоўку. Да слова, падчас апошніх парламенцкіх выбараў сябры «Белай Русі» атрымалі 57% месцаў — 63 мандата ў Палаце прадстаўнікоў. На нядаўнім з’ездзе арганізацыі было прынята рашэнне пачакаць з трансфармацыяй у партыю.

«Прыйдзе час — і мы збяромся на з’езд і будзем разглядаць пераход у партыйную структуру», — заявіў старшыня РГА «Белая Русь» Аляксандр Радзькоў. «Мы на гэтым з’ездзе не выносілі задачу пераходу ў партыю, хоць гэтае пытанне абмяркоўваўся ў працэсе падрыхтоўкі вельмі ўважліва, паслядоўна, часам нават вельмі бурна. Але як вызначыцца з мэтамі, з задачамі? Як назваць партыю? Гэтыя пытанні выклікалі рознагалоссі. Нават само фармаванне партыйнай структуры, дысцыпліны патрабуе часу — гэта павінна саспець і ўнутры, і звонку, павінна адпавядаць патрабаванню грамадства, дзяржавы», — адзначыў Радзькоў, і падкрэсліў, што ад ідэі пераўтварэння ў палітычную партыю ў аб’яднанне не адмаўляюцца. «Хоць і цяпер мы партыйныя функцыі, у прынцыпе, можам выконваць. Мы пабудаваны па партыйных прынцыпах. Мы можам вылучаць сваіх кандыдатаў у дэпутаты. Аднак мы разумеем, што пры пераходзе ў партыю нейкія свае функцыі можам страціць», — рэзюмаваў лідар арганізацыі.

Відавочна, ні «Белая Русь», ні БРСМ пакуль не атрымалі адмашку на стварэнне паўнавартаснай партыі ўлады, што можа стаць альтэрнатывай выбудаванай сістэме вертыкалі. Але як запасныя, што акумулююць чалавечы рэсурс, гэтыя грамадскія аб’яднанні працуюць някепска. І ў сукупнасці з іншымі метадамі ідэалагічнай і ідэйнай падрыхтоўкі ствараюць грунт падтрымкі для рэжыму. Нават калі яго члены таемна спачуваюць іншадумству, але вербальна акрэсліваюць сваю пазіцыю словамі: «Ну вы ж самі ўсё разумееце»...

▸ МЕМАРАНДУМ

# БЕЛАРУСЬ — ДОМ ЕЎРАЗІЙСКАГА КАМПРАМІСУ

Вольга ХВОІН

**Беларускія юрысты выдалі брашуру «Беларусь: Terra Incognita ў цэнтры Еўропы ці тэрыторыя еўразійскага кампрамісу». Выданне прымеркаванае да ўгодкаў падпісання Беларуссю, Расіяй, Англіяй і ЗША мемарандума аб гарантыях бяспекі ў сувязі з далучэннем Беларусі да Дамовы аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі.**

Аўтары выдання хочуць звярнуць увагу грамадскасці як унутры Беларусі, так і прыцягнуць увагу міжнародных палітычных структур, што гэты мемарандум ва ўмовах цяперашняга часу можа стаць тым дакументам, які адкрые новую Беларусь, здольную стаць палітычным, эканамічным і культурным Домам еўразійскага супрацоўніцтва і кампрамісу.

На думку складальнікаў брашуры — праваабаронцы Алега Воўчака, юрыстаў Ігара Рынкевіча і Юрыя Волчака, — мемарандум у сённяшніх умовах можа стаць дакументам, які адкрые новую Беларусь, здольную стаць палітычным, эканамічным і культурным Домам еўразійскага супрацоўніцтва і кампрамісу.

Адзін з аўтараў выдання праваабаронца Алег Волчак мяркуе, што для дзяржавы даўно наспеў час правесці мадэрнізацыю ды знайсці новае аблічча для рэпрэзентацыі сябе. У брашуры складальнікі акурат і паспрабавалі выказаць сваё бачанне месца і ролі Беларусі ў сучасным свеце.

Ідэя добраўпарадкаванага і гасціннага Еўразійскага дома, па меркаванні аўтараў, вынікае з разумення, што «чалавецтвам назапашаны вялікі, у тым ліку горкі, вопыт, і мы павінны пазбегнуць паўтарэння бедаў, нарошчваючы поспехі».

Агульная стратэгічная мэта па стварэнні адзінага Еўразійскай дома, на погляд аўтараў, цалкам рэальная для дасягнення. І менавіта «Беларусь можа стаць тэрыторыяй усеагульнага кампрамісу Еўропы і Азіі, іх злучальны звяном у вырашэнні многіх складаных задач сучаснасці, якія тычацца пытанняў міру і эканамічнай стабільнасці».

Аўтары заклікаць дзяржавы-падпісанты мемарандума, а таксама іншыя дзяржавы Еўропы і Азіі, ужо цяпер пачаць абмеркаванне ідэі «стварэння на тэрыторыі Беларусі цэнтра еўразійскай культуры, транспартна-лагістычнага, гандлёва-эканамічнага і фінансавага пасярэдніка ўсёй Еўразіі».

Тэрыторыя беларускай дзяржавы бачыцца імі пляцоўкай на мацерыку, дзе ў шматлікіх сферах грамадскага і палітычнага жыцця народаў Еўразіі будуць вырашацца разнастайныя супярэчнасці. «Практыка пераканаўча паказала, — падкрэсліваецца ў брашуры, — што ні адна краіна сёння не можа выжыць у гэтым свеце адна. Нават Швейцарыя, з'яўляючыся фінансава-эканамічным цэнтрам Заходняй Еўропы, сёння адчувае моцны ціск трансатлантычных карпарацый, яе не абышлі бокам глабалізацыя і еўрапейская інтэграцыя».

Перашкоды на гэтым шляху вынікаюць з закрытасць Беларусі пры цяперашняй аўтарытарнай уладзе. Пры ўмове ж дэмакратычнай трансфармацыі Рэспубліка Беларусь здольная з'яднаць і ўмацаваць шырокі спектр інтарэсаў самага вялікага мацерыка планеты, стаўшы еўразійскай «Швейцарыяй». Пры новай дэмакратычнай уладзе наша краіна «зможа ажыццявіць сваю місію — стаць тэрыторыяй кампрамісу ў Еўразіі», — пішуць аўтары выдання.

У якасці адной з прапаноў яны агучваюць ідэю размясціць у Беларусі адзін з інстытутаў АБСЕ, напрыклад, Вярхоўную камісію па справах нацыянальных меншасцяў.

▸ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЕЎРАКАМІСАР: ВЫЗВАЛІЦЬ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

**Вызваленне палітвязняў з'яўляецца перадумовай пачатку дыялогу Еўрапейскага саюза з афіцыйным Мінскам. Пра гэта еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыцы добрасуседства Штэфан Фюле ў чарговы раз заявіў падчас сустрэчы з намеснікам старшыні ПЦ «Вясна» Валянцінам Стэфановічам і старшынёй Беларускай асацыяцыі журналістаў Жаннай Літвіной, якая праходзіла 5 снежня ў Брусэлі.**



У межах візіту беларускіх праваабаронцаў у Брусэль, арганізаванага Міжнароднай федэрацыяй за правы чалавека (FIDH), адбыліся шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі Еўрапейскага Парламенту і Еўрапейскай Камісіі.

Валянцін Стэфановіч распавёў: «Спадар Фюле выказаў падтрымку ўсім праваабаронцам Беларусі, а таксама праваабарончаму цэнтру «Вясна», які, паводле яго слоў, працягвае працу ў такіх складаных умовах, асабіста Алесю Бяляцкаму і ўсім палітвязням».

Жанна Літвіна паведаміла прэс-службе ГА «БАЖ», што падчас сустрэчы ішла гаворка і пра лібералізацыю сферы СМІ.

«Сёння камісару Штэфану Фюле былі сфармуляваныя пяць канкрэтных крокаў, якіх даўно патрабуе ад беларускіх уладаў журналісцкая супольнасць. Такія крокі сведчылі б пра хоць бы мінімальную гатоўнасць афіцыйнага Мінска ісці на перамовы.

Гэта спыненне крымінальнага пераследу Андрэя Пачобута і Антона Сурапіна; спыненне пераследу часопіса «ARCHE» ды разблакаванне яго рахункаў; увядзенне мараторыя на выкарыстанне шасці адыёзных дыскрымінацыйных артыкулаў Крымінальнага кодэкса; заяўны прынцып акрэдытацыі, а таксама спыненне гвалтоўных перашкодаў для працы журналістаў, якія адбываюцца ў Беларусі амаль кожны месяц», — распавяла па выніках сустрэчы Жанна Літвіна.

Пасля сустрэчы з Фюле Валянцін Стэфановіч і Жанна Літвіна сустрэліся з журналістамі вядучых СМІ, у тым ліку тэлеканала «Euronews» і Радыё «Свабода».

spring96.org

▸ ЗАЯВА

# КРЭМЕР: РАСІЯ ВЫРАТАВАЛА РЭЖЫМ ЛУКАШЭНКІ

**Пра гэта заявіў прэзідэнт праваабарончай арганізацыі «Freedom House» Дэвід Крэмер.**



У інтэрв'ю «Голасу Амерыкі» Крэмер адзначыў, што ў 2011 годзе беларуская ўлада была на мяжы немінучай пагібелі, але шматмільярдны крэдыт ад Расіі змяніў сітуацыю.

Тым не менш, адзначыў Крэмер, Захад не павінен спыняць эканамічны і палітычны ціск на афіцыйны Мінск у галіне правоў чалавека.

На думку кіраўніка «Freedom House», палітычныя рэпрэсіі з дня разгону 30-тысячнай дэманстрацыі ў Мінску ў 2010 годзе толькі ўзмацніліся.

«Еўрарадыё»

▸ СКАНДАЛ

# ІНІЦЫЯТАРАЎ КАМПАНІІ СУПРАЦЬ КАНТРАЛЁРА ЗАПАЛОХВАЮЦЬ

Мікіта БРОЎКА

**Пра гэта карэспандэнту НЧ паведаміла адна з ініцыятарак збору подпісаў супраць кантралёра Шахлінай. Яна кажа, што людзям, якія не згодныя з дзеяннямі кантралёра, тэлефанавалі са Следчага камітэта. Яны настойліва прасілі спыніць збор подпісаў за звальненне кантралёра з працы.**

Неабыякавыя людзі, што паўсталі супраць кантралёра Шахлінай, стварылі ў сацыяльнай сетцы «УКантакце» адмысловую суполку. У ёй яны змясцілі зварот да старшыні Наваполацкага гарвыканкама з просьбай звольніць з працы кантралёра і забараніць ёй працаваць у кантрольна-рэвізійнай службе. Таксама падпісанты звароту просяць судзейскага ўдзела адэкватным разглядзе справы хлопца, які абараніў сям'ю ад дзеянняў кантралёра.

У выніку ціску адзін з першых, хто падняў гэтую праблему, навапалачанін Андрэй Собаль зачыніў суполку ў сацыяльнай сетцы «УКантакце» пад назвай «Мы против такого контроля!!!» і спыніў збор подпісаў. Паводле слоў адной з ініцыятарак кампаніі, ціск на іх пачаўся пасля таго, як кантралёр заўважыла неабыякавых людзей за зборам подпісаў за яе звальненне. Яна сфатаграфавала зборшчыкаў і звярнулася ў міліцыю.

Нагадаем, нядаўна ў інтэрнэце з'явілася відэа, на якім жыхар Наваполацку Аляксандр схапіў за валасы супрацоўніцу рэвізорскай службы Людмілу Шахліну. На відэа бачна, што спачатку кантралёр выказвае прэтэнзіі да маладой сям'і з дзецьмі — маўляў, яны не заплацілі за праезд. Кантралёр Шахліна спрабуе перашкодзіць пасажырам выйсці з аўтобуса. У выніку за сям'ю заступаецца іншы пасажыр, Аляксандр, хапае кантралёра за валасы. Тым часам сям'я выходзіць з аўтобуса.

На хлопца заведзеная крымінальная справа. Але варта заўважыць, што згодна з заканадаўствам, рэвізоры ў грамадскім транспарце не маюць права здзяйсняць адміністратыўнае затрыманне. Таму законнасць дзеянняў Людмілы Шахлінай таксама выклікае сумнеў. Тым не менш, яе дзеянням дагэтуль не дадзена прававая ацэнка з боку праваахоўных органаў.

▸ ПАЛІТВЯЗНІ

# СТАТКЕВІЧУ МОГУЦЬ ЗМЯНІЦЬ РЭЖЫМ УТРЫМАННЯ

**У суботу, 8 снежня, Мікалай Статкевіч патэлефанаваў родным з турмы. Гэта дзявяты званок за год.**

«Настрой у яго добры, голас бадзёры, — распавяла жонка палітвязня Марына Адамовіч. — Сказаў, што шмат чытае, займаецца спортам, пацвердзіў, што напрыканцы лістапада яго сусед па камеры Андрэй Васільеў напісаў прашэнне аб памілаванні пасля 11 гадоў зняволення. Таксама распавёў, што пасля маёй сустрэчы з начальнікам турмы яму перадалі Пастанову Савета Міністраў №1564, з-за якой я якраз і мусіла звярнуцца ў адміністрацыю».

Акрамя таго, Мікалай Статкевіч паведаміў, што да канца года, магчыма, адбудзецца пасяджэнне турэмнай камісіі, якая перагледзіць рэжым утрымання. «Канешне, тое, што камісія збярэцца, яшчэ не азначае, што рэжым будзе перагледжаны, але, калі такое здарыцца, то гэта азначае магчымасць яшчэ аднаго спаткання на працягу года, і нават адну харчовую перадачу», — зазначыла жонка.

Мікалай Статкевіч прасіў перадаць падзяку ўсім, хто яго падтрымлівае.

spring96.org

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# СЮРПРЫЗЫ АД ЗІМЫ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Зноў зіма прыйшла нечакана. Усе думалі, што яна папярэдзіць пра свой прыход, а яна, падлюка, прыйшла ў снежні — адразу пасля восені. Зноў прынесла з сабой звыклыя праблемы — снег, заторы на дарогах, галалёд… Зноўку мы аказаліся да яе не падрыхтаваныя.**

За тыдзень у Мінску зафіксавана 450 зваротаў у сувязі з галалёднымі траўмамі. Пра гэта паведаміў галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Мінска Іван Вайтовіч. Ён, разам з тым, растлумачыў, што гэта колькасць зваротаў, а не траўм, якія ў выніку маглі быць і не дыягнаставаныя.

Паводле слоў Вайтовіча, для прафілактыкі галалёдных траўм санітарна-эпідэміялагічныя службы горада праводзяць праверкі ўборкі тэрыторый ад снегу і выкарыстання супрацьгалалёдных сумесяў вакол аб'ектаў гандлю і іншых грамадскіх будынкаў. За снежань было распачата прыкладна 100 адміністрацыйных спраў у сувязі з невыкананнем мерапрыемстваў па барацьбе з галалёдам і ўборцы снегу, паведаміў медык. «Мы праводзім штодзённую працу па выяўленні недахопаў і прымаем самыя строгія меры ўздзеяння», — сказаў Вайтовіч.

Самыя строгія меры ўздзеяння мае намер прыняць і Мінгарвыканкам. Гэтая структура становіцца нечым падобная да Адміністрацыі прэзідэнта: што галоўны скажа, тое адразу і зробяць. Не паспеў мэр сталіцы Мікалай Ладуцька запатрабаваць адкапаць з-пад снегу бамжоў і прымусіць іх прыбіраць снег, як гэтае рашэнне было выканана.

Мінгарвыканкам «прапрацоўвае пытанне па прыцягненні бамжоў да ўборкі снегу», паведаміў генеральны дырэктар ГВА «Мінская гарадская жыллёвая гаспадарка» Уладзімір Хадарцэвіч. Разам з тым, адзначыў Хадарцэвіч, бяздомныя будуць працаваць не ў дварах, а ў «больш аддаленых раёнах горада: на пешаходных сувязях і на вуліцах». Ён паведаміў, што гэта праца не будзе аплачвацца, але бамжоў будуць паіць гарачым чаем і карміць бутэрбродамі. Пры гэтым чыноўнік падкрэсліў, што бяздомныя будуць прыцягвацца да ўборкі снегу «на добраахвотнай аснове».

Пра «добраахвотную аснову» мы ўжо чулі на працы бяздомных па ўборцы восеньскага лісця. Гэтая «добраахвотнасць» забяспечвалася не толькі чаем і бутэрбродамі, але і міліцэйскімі дубінкамі. Інакш навошта за кожнай уборкай наглядаў міліцыянт?

Зараз сцэнар будзе таксама цікавы. Першай шарэнгай пойдуць бамжы — вызваляць з-пад снегу бутэлькі і іншыя «карысныя выкапні». За імі непасрэдна чысціць снег выйдуць адміністрацыйна затрыманыя ў якасці «працатэрапіі». За імі будуць назіраць маладзёны з БРСМ, якія, па словах прэзідэнта, «з'яўляецца добрым рэзервам кадраў для МУС і КДБ». А ўжо за тым, каб гэтая хеўра не разбеглася па цёплых закутках, будуць назіраць супрацоўнікі міліцыі. Яны будуць не толькі сачыць за агульным парадкам, але і глядзець, каму з БРСМаўцаў даць рэкамендацыі на паступленне ў міліцыянты, а каму — у КДБ.

А што? Атрымліваецца, і вуліцы чысцюткія, і ўсе пры справе. Потым падключацца пятыя — чыноўнікі, якія адрапартуюць пра паспяховасць праведзенага эксперыменту і атрымаюць за ўсіх прэміі перад Новым годам.

Дарэчы, да Новага года засталося паўмесяцы, а мы, па старой завядзёнцы, у апошні момант вырашаем важныя пытанні. Дагэтуль няма дамоўленасцяў па нафце. На працягу найбліжэйшых аднаго-двух тыдняў Беларусь разлічвае падпісаць з Расіяй баланс па пастаўках нафты і нафтапрадуктаў на 2013 год, заявіў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з чальцамі Клуба галоўных рэдактараў краін СНД, Балтыі і Грузіі.

«Думаю, што мы дамовімся пра 23 мільёны тон, — цытуе Лукашэнку дзяржаўнае агенцтва БелТА. — Ёсць адзіная праблема — тэхнічная: ці здолеюць такі аб'ём паставіць па трубе? Прыкладна 22 мільёны тон змогуць, а адзін мільён тон мы гатовы паставіць чыгуначным транспартам». «Хаця даходнасць там будзе меншая, але прададзім гэты бензін на Захад, там цэны вышэйшыя, будзе для нас больш выгадна», — дадаў Лукашэнка.

Ён падкрэсліў: Беларусь настойвае на пастаўцы менавіта 23 мільёнаў тон — такі аб'ём неабходны для беларускіх прадпрыемстваў, якія дзякуючы мадэрнізацыі здольныя перапрацоўваць вялікія аб'ёмы нафты.

Але адзінае, аб чым не сказаў Лукашэнка, што думае пра гэта Расія. А яна па-ранейшаму пакрыўджаная на Беларусь з-за махінацыяў з растваральнікамі і разбавіцелямі. Завочна адказаў Лукашэнку на брыфінгу ў Мінску 10 снежня дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Рыгор Рапота: «Баланс па нафце пакуль не гатовы, але гэта пытанне будзе абмяркоўвацца».

Затое нам ёсць чым завабіць сюды турыстаў. Нацыянальнае агенцтва па турызме прадставіла зімовыя турыстычныя мерапрыемствы ў Беларусі. Тое, што туды ўключана, выклікае, як мінімум, здзіўленне. Прыкладам, турыстам, па меркаванні агенцтва, вельмі цікава тое, што ў канцы снежня — пачатку студзеня па ўсёй краіне традыцыйна пройдуць народныя гулянні каля навагодніх ёлак, канцэрты, феерверкі, спартыўныя мерапрыемствы, ранішнікі для дзяцей. У Мінску перадnavагодні тыдзень пачнецца святочным шэсцем Дзядоў Марозаў і Снягурачак і ўрачыстым запальваннем агнёў на цэнтральнай ёлцы Мінска на Кастрычніцкай плошчы.

Асабліва турысты захапляюцца нашымі дзіцячымі ранішнікамі! Так і бачу наведвальнікаў з ЗША, Германіі і ЮАР у дзіцячым садку!

А найбольш значнымі падзеямі лютага, па меркаванні Нацыянальнага агенцтва па турызме, абяцаюць стаць чэмпіянат свету па веласіпедным спорце на трэку (20–24 лютага), а таксама святкаванне Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных сіл Беларусі і Масленіца.

Вось чаго не хапае замежным турыстам! Яны натоўпамі павінны ехаць на гэтыя святкаванні. Нічога больш забаўнага ў Беларусі не чакаецца.

Але ёсць куды імкнуцца. У Дзяржынскім раёне з'явіцца гарналыжны курорт, паведаміла 11 снежня журналістам начальнік аддзела арганізацыйнай працы аздараўлення насельніцтва і турызму ўпраўлення фізічнай культуры, спорту і турызму Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Інга Малашкевіч.

Паводле яе слоў, гарналыжны цэнтр будуе прыватнае ТАА «Сервісны цэнтр «Веста». Найбліжэйшым часам плануецца заліць каток і адкрыць пункт пракату. Што да гары для спуску на лыжах, яна ўжо насыпана, аднак да прыёму наведнікаў пакуль не гатова. «Хутчэй за ўсё, да гэтага сезона яны не паспеюць яе адкрыць: трэба выканаць вялікі аб'ём работ», — адзначыла Малашкевіч.

Але ў наступным годзе, пэўна, і на гэтых горках здолеюць пакатацца турысты.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### БАРЫС СВЯТЛОЎ



Аляксандр Лукашэнка прызначыў рэктара Універсітэта культуры Барыса Святлова міністрам культуры Беларусі. Барыс Святлоў скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, прайшоў кар'ерны шлях ад пасады старшага лабаранта Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР да намесніка міністра культуры (1991–1994), у 1995 годзе працаваў нават дырэктарам фінансава-інвестыцыйнай кампаніі «Фінансы і актывы». У 2003–2008 гадах займаў пасаду рэктара прыватнай установы адукацыі «Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва». У 2008–2012 гадах — рэктар установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў».

Газета «Салідарнасць» прыводзіць парады чыноўніку дзеячаў культуры. Загадчык літаратурнай часткай Слонімскага драматычнага тэатра Сяргей Чыгрын мяркуе, што ў першую чаргу міністр культуры павінен звярнуць увагу на аплату ганарараў драматургам і ўсім тым, хто працуе над спектаклямі ў беларускіх дзяржаўных тэатрах.

— На сённяшні дзень ляжаць у міністэрстве культуры неаплачаныя па два гады п'есы. Там сумы вельмі мізэрныя. А ў сувязі з інфляцыяй яны змяншаюцца з кожным днём, — падзяліўся з карэспандэнтам «Салідарнасці» літаратар. — У той самы час, калі беларускія драматургі не могуць атрымаць ганарар — мільён ці максімум тры мільёны рублёў, да нас прыязджаюць чужыя акцёры і за пяць хвілін на сцэне ім плацяць ад 10 да 15 тысяч еўра. Насамрэч праблема з аплатай існуе на працягу апошніх 10–15 гадоў.

Таксама Сяргей Чыгрын параіў міністру масавыя мерапрыемствы, асабліва ў рэгіёнах, ладзіць па-беларуску, выдаваць зборнікі п'ес ды рассылаць іх па тэатрах і дамах культуры, аднавіць часопіс «Тэатральная Беларусь».

### ЛЮБОЎ КАВАЛЁВА



Праваабаронцам года стала Любоў Кавалёва, маці расстралянага па справе аб тэрарызме Уладзіслава Кавалёва. «Тварам і голасам кампаніі супраць смяротнага пакарання» назвала Любоў Кавалёву лідар «Праваабарончага альянсу» Любоў Гразнова.

Беларускія праваабарончыя арганізацыі ўручылі штогадовыя прэміі за дасягненні ў галіне абароны правоў чалавека ў сваёй прафесійнай дзейнасці. Прэмія была заснавана міжнароднай арганізацыяй «Праваабарончы альянс» (Літва), аднак з 2011 года яна стала нацыянальнай. Намінантаў вызначаюць прадстаўнікі васьмі грамадскіх арганізацый краіны, сярод якіх незарэгістраваны праваабарончы цэнтр "Вясна", грамадскія аб'яднанні «Беларуская асацыяцыя журналістаў», «Цэнтр прававой трансфармацыі», камітэт у абарону правоў рэпрэсаваных «Салідарнасць». Прэмія ўручаецца ў трох намінацыях: «Праваабаронца года», «Адвакат года» і «Журналіст года».

Журналістам 2012 года прызнаны Андрэй Пачобут, якому пагражае пакаранне ў выглядзе абмежавання або пазбаўлення волі да пяці гадоў. Журналіст не прызнае сябе вінаватым і адмовіўся даваць паказанні следству.

Лаўрэатамі прэміі ў намінацыі «Адвакат 2012» сталі Аліна Шостак і Альвіна Дрыга. Яны былі абаронцамі грамадскіх актывістаў, у тым ліку па адміністрацыйных справах.

### АЛЕСЬ ЛАПО



Сёлета Гран-пры форуму альтэрнатыўнага малабюджэтнага кіно Беларусі «КінаVarka» рашэннем журы не прысудзілі ніводнаму з 36 фільмаў, якія ўвайшлі ў шорт-ліст.

«Па большасці галасоў журы фестывалю ў нас не было лідара, — паведамілі на цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў рэжысёр, прадзюсар тэлекампаніі «Карамболь» Уладзімір Максімкаў, перадае БелаПАН. — Але для таго, каб вы не думалі, што мы хочам пакінуць нашы прызы сабе, рондаль грошай і камеру для здымак у экстрэмальных умовах мы аддамо фільму, які часцей за ўсіх трапляў у намінацыі журы. Такое рашэнне нам падказаў старшыня журы рэжысёр Аляксандр Яфрэмаў». У выніку матэрыяльна быў прэміяваны журы кароткаметражны фільм «Вандроўнік не вернецца» Алеся Лапо.

«395 дзён, 25 тысяч кіламетраў, 13 краін Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі… Пасля доўгай вандроўкі Кірыл Краўцоў вярнуўся ў Беларусь, каб даць новае жыццё вымерлай вёсцы, перайсці на беларускую мову і проста прымаць гасцей…» — так апісвае сюжэт сваёй стужкі аўтар. Фільм можна знайсці для прагляду ў інтэрнэце. Гэтая ж стужка перамагла на форуме «КінаVarka» ў намінацыі «Лепшы дакументальны фільм».

Сцэнарыст і драматург Андрэй Курэйчык падчас цырымоніі ўзнагароджання адзначыў: «У мяне ёсць адчуванне, якое з'явілася ў мінулым годзе, а ў гэтым узмацнілася, што мы на мяжы нейкага прарыву. Мы павінны стварыць шмат новага, цікавага, альтэрнатыўнага кіно. І для гэтага «КінаVarka» шмат зрабіла. Я не згодны з песімізмам, калі думаюць пра закрыццё кінафоруму. Гэты фестываль нам патрэбны. Гэта той горан, з якога выплаўляюцца сапраўдныя кінематаграфісты і рэжысёры».

Форум альтэрнатыўнага малабюджэтнага кіно Беларусі «КінаVarka» адбыўся ў чацвёрты раз.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ФІЛОСАФ І ПАЛІТЫЧНАЯ МАДЭРНІЗАЦЫЯ

Сяргей НІКАЛЮК

**Філосаф Вячаслаў Оргіш апублікаваў у самай саліднай газеце краіны артыкул-эпапею, нагодай для напісання якой паслужыла модная зараз тэма палітычнай мадэрнізацыі.**




Адразу прывяду ключавую цытату: «Калі кіроўная эліта хоча паспяхова развіваць альтэрнатыву рэвалюцыйным тэхналогіям барацьбы за ўладу, трэба не толькі стрымліваць іх пранікненне ў краіну. Неабходна мадэрнізаваць беларускую палітычную прастору такім чынам, каб канструктыўная апазіцыя прысутнічала ў ёй як неабходны элемент палітычнай сістэмы».

Вось так. Не больш, але і не менш. І той, хто лічыць, што філосафы не здольныя выкладаць свае думкі даступнай абывацелю мовай, хай першым кіне ў мяне камень.

## Чыя капуста на дзяржаўнай градцы?

Паводле класіфікацыі нашага філосафа, беларуская апазіцыя падзяляцца на радыкальную і канструктыўную. Першая прытрымліваецца стратэгіі «барыкаднай барацьбы» з палітычным рэжымам. Другая гатовая ўзаемадзейнічаць з кіроўнай элітай шляхам інтэграцыі ў сістэмны палітычны працэс, спадзеючыся, што такім шляхам яна атрымае «магчымасць дамагацца трансфармацыі палітычнай сістэмы знутры, выкарыстоўваючы для гэтага ідэалогію і практыку рэфармізму».

Цікавая дэталь: філосаф, крытыкуючы радыкальную апазіцыю, ні разу не ахарактарызаваў яе дзейнасць як антызаконную і антыканстытуцыйную. Але калі радыкальная апазіцыя ў сваёй дзейнасці не выходзіць за межы канстытуцыйнага поля, дык у чым жа тады выяўляецца радыкалізм айчынных «ястрабаў» і «барыкаднікаў» (тэрміны і двукоссі В. О.)?

Прамога адказу ў тэксце аб'ёмам у 43,5 тысячы знакаў я не здолеў знайсці, аднак не ўсё так безнадзейна. Як казаў персанаж з армейскага анекдота: «Даю маячок»: «Немагчыма ўявіць, што кіроўная эліта пагодзіцца на сістэмнае супрацоўніцтва з сіламі, якія брутальна імкнуцца здзейсніць пераварот у сістэме. Каму хочацца пускаць казла ў агарод?»

Пра які агарод гаворка? Пра беларускую дзяржаву, якую наша палітычная эліта прыватызавала і разглядае ў якасці сваёй уласнасці, усіх жа астатніх, якія прад'яўляюць правы на качан капусты з дзяржаўнай градкі, яна ўспрымае як казлоў.

Такі погляд на палітычных апанентаў можна смела разглядаць як антыканстытуцыйны. Здавалася б, тут багата працы для Канстытуцыйнага суда, пракуратуры і арганізацыі, чыя абрэвіятура складаецца з трох літар.

Аднак я не такі наіўны і выдатна разумею, чым дэмакратыя з прыметнікам «імітацыйная» адрозніваецца ад проста дэмакратыі. Калі ў проста дэмакратыі змена палітычнай эліты не толькі дапускаецца дэ-юрэ (у гэтым сутнасць любой дэмакратычнай канстытуцыі), але і рэгулярна ажыццяўляецца дэ-факта, то ў імітацыйнай дэмакратыі любая спроба скарыстацца канстытуцыйнымі механізмамі для змены палітычная эліты — цяжкае злачынства.

## Пра ролю каналізацыі ў палітыцы

А зараз звернемся да апазіцыі канструктыўнай. Філосаф упэўнены, што словы «канструктыўная» і «лаяльная» з'яўляюцца сінонімамі. Падмацую сказанае цытатай: «Беларускай кіроўнай эліце, на маю думку, давядзецца развіваць і ўвасабляць у жыццё канцэпцыю канструктыўнай сістэмнай апазіцыі. Прызнанне мэтазгоднасці з'яўлення ў парламенце грамадскіх і палітычных структур, лаяльных да ўлады, — правільны крок у гэтым накірунку».

Такую апазіцыю неабходна берагчы і песціць. Дзеля яе дзейнасці варта ўзворваць глебу ў «сістэмным палітычным полі». Па-першае, гэта адпавядае запытам крытычнай часткі грамадства (нязначнай, на думку філосафа). Па-другое, самім фактам свайго прызнання канструктыўная апазіцыя «натуральным чынам лімітызуе маргінальную дзейнасць непрымірымых палітычных сіл, абмяжуе праявы радыкалізму, накіруе пратэстную энергію, якая ў тым ці іншым аб'ёме прысутнічае ў кожным грамадстве, у рэчышча рэфармісцкай ідэалогіі» (як усё гэта нагадвае «засланага казачка»).

Але і гэта яшчэ не ўсё, узворванне глебы гэтым не абмяжоўваецца: «Выхад на палітычную сцэну канструктыўнай апазіцыі будзе азначаць грунтоўную палітычную мадэрнізацыю беларускага грамадства ў адпаведнасці з імператывамі еўрапейскай палітычнай культуры».

Вось зараз можна падвесці рысу і паставіць вялікую тоўстую кропку пад... палітычнай мадэрнізацыяй. Вы будзіце смяяцца, але гэта ўсё.

Перачытайце цытату напачатку артыкула: «Неабходна мадэрнізаваць беларускую палітычную прастору такім чынам, каб канструктыўная апазіцыя прысутнічала ў ёй як неабходны элемент палітычнай сістэмы». Менавіта такая апазіцыя зможа стаць своеасаблівым аналагам гарадской каналізацыі. Няхай прабачыць мне чытач за прастамоўнае параўнанне. На мове ж філосафа гарадская каналізацыя ёсць ні што іншае, як «эфектыўны спосаб каналізаваць ці, прынамсі, аслабіць энергію апазіцыйнага максімалізму».

## Страўнік маўчаць не можа

Канструктыўную апазіцыю ў Беларусі ствараць не трэба. Яна маецца ў наяўнасці, але палітычным аналагам гарадской каналізацыі не з'яўляецца. І не таму, што адмаўляецца ці няздольная, а з прычыны таго, што такіх задач палітычная эліта перад ёй не ставіла. Пакуль не ставіла.

Пры жаданні ў складзе новага (па традыцыі, дэпалітызаванага) парламента можна знайсці прадстаўнікоў палітычных і грамадскіх структур. «Але яны, — справядліва заўважае філосаф, — не маюць прамога дачынення да ідэі сістэмнай апазіцыі рэфармісцкага кшталту, якая сваёй дзейнасцю магла б нейтралізаваць патэнцыял радыкальнай часткі несістэмнай апазіцыі».

Тут неабходныя «сапраўдныя» апазіцыянеры. У якасці ўзору філосаф прапануе свайго суаўтара па артыкулах-эпапеях у «СБ», экс-старшыню БСДП (Грамада) Анатоля Ляўковіча.

Ляўковіч тры гады спрабаваў каналізаваць энергію партыі ў канструктыўнае рэчышча, але не дамогся поспеху. Адказныя за гэта — чыноўнікі, «якія так ці інакш займаліся ініцыятывай Ляўковіча». Яны загубілі ініцыятыву знізу, бо не мелі на руках агульнага палітычнага рашэння, не валодалі яснымі рамачнымі ўяўленнямі пра тое, якая можа быць карысць ад гэтай ініцыятывы. Што да эліты Грамады, дык, не атрымаўшы выразных сігналаў з адпаведных кабінетаў, яна падвергла свайго партайгеносе астракізму.

Першы блін атрымаўся камяком. Інакш і не магло быць ва ўмовах, калі «паміж кіроўнай элітай і контрэлітай няма кансенсусу наконт таго, у якіх рамках павінен працякаць палітычны працэс, каб задавальняць абодва бакі».

На пошук кансенсусу і скіроўвае высілкі філосаф. «Палітычная эліта, будзь пільнай!» — заклікае ён. Беларуская апазіцыя дэградуе, яе структуры выраджаюцца ў секты. Тым не менш у апазіцыйным асяроддзі саспявае разуменне перагляду адносін з палітычным рэжымам, і працэс саспявання не варта пускаць на самацёк, яго трэба падтрымліваць, у тым ліку і матэрыяльна.

«Апазіцыянеры, якія б высокія ідэалы ні спавядалі, не могуць загадаць свайму страўніку маўчаць, калі ён пусты». Вось такая проза палітычнага жыцця. Таму не варта дзівіцца таму факту, што «цэлыя структуры даўно падселі на фінансавую іголку, якая знаходзіцца ў руках знешніх гульцоў».

Дзе ж выйсце? Яно — у змене рук. Для гэтага неабходна тэрмінова запусціць «механізм палітычнага далучэння», пры дапамозе якога прадстаўнікі апазіцыі атрымаюць доступ да «бюджэтных крыніц». Філосаф усведамляе, што «гэта, безумоўна, далікатнае пытанне», але гульня таго вартая.

## Ледзь жывая, але вельмі небяспечная

Аўтар такой арыгінальнай тэорыі палітычнай мадэрнізацыі не разглядае дыялог як панацэю, здольную звесці на нішто канфлікт інтарэсаў. Дый якія могуць быць козыры ў апазіцыі ў дыялогу з уладай! Але калі ў апазіцыі няма на руках козыраў, дык дзеля чаго тады ўвесь гэты філасофскі крэатыў аб'ёмам у 43,5 тысячы знакаў?

Аднак тлумачыцца ўсё вельмі проста: «Сёння выклікі не носяць выключна ўнутраны характар». І справа не ў мэтанакіраваным імкненні Захаду «перакаваць беларускі палітычны рэжым на свой густ», справа ў тым, што «імкліва набірае абароты фундаментальны інтэграцыйны працэс планетарнага маштабу, які называюць глабалізацыяй».

Працэс глабалізацыі незваротны. Захад — яго ініцыятар, і ўжо хаця б таму «на вастрыі заходняй стратэгіі глабальнай мадэрнізацыі з'яўляецца канцэпцыя «дэмакратычнай мадэрнізацыі». Беларусі ўжо толькі праз сваё размяшчэнне ў цэнтры Еўропы і агульныя духоўныя з ёй карані ад сусветнага мейнстрыму не ўхіліцца.

У якасці ж сродку «дэмакратычнай цывілізацыі» паўсюдна выкарыстоўваюцца тэхналогіі так званых «каляровых рэвалюцый». На думку філосафа, «непасрэднай праваднiцай іх звычайна выступае радыкальна настроеная пазасістэмная апазіцыя, якая карыстаецца падтрымкай нейкай часткі насельніцтва».

З апошнім сцвярджэннем можна і паспрачацца: у ролі генератара «каляровых рэвалюцый» (прынамсі, на постсавецкай прасторы) выступаў раскол эліт. Аднак прызнанне гэтага факту зламала б усю лагічную канструкцыю філосафа. Які сэнс выбудоўваць за бюджэтныя грошы палітычную каналізацыю, калі крыніца нестабільнасці знаходзіцца ўнутры палітычнай эліты?

І яшчэ адзін важны момант. Каб быць пераканаўчым, філосаф спрабуе запалохаць сваіх працадаўцаў. Ды беларуская апазіцыя ледзь жывая і не можа разлічваць на шырокую мабілізацыю электарату, але «сучасныя рэвалюцыйныя тэхналогіі выкарыстоўваюць не столькі метады электаральнай мабілізацыі шырокіх сацыяльных пластоў, колькі спецыфіку псіхалогіі масавых паводзін людзей». І тут, нібы фокуснік, філосаф выцягвае з рукаву «эфект мігатлівых светлячкоў».

* * *

Прапанаваны чытачам артыкул не прэтэндуе на аналітычны жанр. Гэта толькі кароткае пераказванне першай часткі опуса Вячаслава Оргіша. Працяг будзе.

ГАНДАЛЬ

# ШОПІНГ: НА РАСПРОДАЖ ЗА МЯЖУ ЦІ Ў ІНТЭРНЭТ

Вольга ХВОІН

**Пераднавагодні ажыятаж у айчынных крамах у чарговы раз падвышае цікаўнасць да тэмы айчыннага гандлю ды вытворчасці. І дадае фактуры для крытыкі. Здаецца, што дзяржаўнае кіраўніцтва з усіх сіл стараецца, каб беларусы «любілі сваё», а яны — няўдзячныя! — не задаволеныя і цэнамі, і асартыментам, і мясцовай палітыкай шопінгу.**

Год таму Аляксандр Лукашэнка заявіў, што імпартазамяшчэнне і дасягненне станоўчага сальда знешняга гандлю пераходзіць з эканамічнай катэгорыі ў палітычную. І любыя факты неабгрунтаванага імпарту цяпер будуць расцэньвацца як самыя сур'ёзныя парушэнні з усімі вынікаючымі наступствамі.

Таму быў хутка распрацаваны і прыняты план замены імпартных тавараў таварамі айчыннай вытворчасці. За кожны від тавару было прызначана адказнае ведамства. Міністэрству прамысловасці даручылі забяспечыць пастаўку 10 000 імпартазамяшчальных прасаў, 7 000 фенаў, 400 тысяч энергазберагальных люмінесцэнтных лямпаў, 7 тысяч парасонаў, 20 тысяч гадзіннікаў і 1 тысячы фрэзерных грабель. «Беллегпрам» мусіў забяспечыць выпуск 10 тысяч пагонных метраў зашпількі «маланка», 250 дзіцячых універсальных калясак, 1,5 тысячы шапак з натуральнага футра, а таксама тканін, адзення, трыкатажу і іншага. У спісе тавараў, якія неабходна выраблять у Беларусі, былі і падгузнікі, і парфума, і настольныя гульні. У дакуменце было агаворана, што «спажывецкія характарыстыкі названых тавараў павінны забяспечваць іх канкурэнтаздольнасць, адпавядаць лепшым сусветным аналагам з улікам прапаноў Мінгандлю».

Дарэчы, яшчэ ў 2007 годзе была прынятая Пастанова савету Міністраў №28 «Аб некаторых пытаннях вытворчасці і пастаўкі на ўнутраны рынак імпартазамяшчальных спажывецкіх тавараў». Адпаведныя заданні атрымалі ці не ўсе міністэрствы і ведамствы. Пры гэтым у дакуменце падкрэслівалася, што «тавары павінны адпавядаць лепшым імпартным аналагам па спажывецкіх уласцівасцях, тэхнічных характарыстыках, выконваемых функцыях, дызайне, упакоўцы і цэнавым фактары».

## Пракалоліся як дзеці

І вось на днях скандальнае выкрыццё: Камітэт дзяржкантролю прыйшоў да высноў, што, у прыватнасці, дзіцячыя тавары айчыннай вытворчасці не карыстаюцца попытам, бо саступаюць імпартным аналагам і па коштах, і па якасці. Такую выснову КДК Гомельскай вобласці робіць па выніках праверкі за год у сферы вытворчасці, імпарту і рэалізацыі на тэрыторыі рэгіёну сацыяльна значных тавараў для дзяцей, паведамляе БелаПАН.

У Камітэце дзяржкантролю Гомельскай вобласці мяркуюць, што ў цэлым сітуацыя з забеспячэннем спажывецкага рынку дзіцячымі таварамі стабільная, пакупніцкі попыт задавальняецца ў поўным аб'ёме як за кошт тавараў айчыннай, так і імпартнай вытворчасці. Выбарачны аналіз рэалізацыі ў буйных гандлёвых аб'ектах Гомеля тавараў для дзяцей паказаў, што працэнт продажу айчынных тавараў даволі высокі.

У той жа час беларускія вытворцы не выпрацоўваюць асобныя тавары для дзяцей: соскі, пустышкі, бутэлечкі для кармлення дзяцей, падгузкі і памперсы, вільготныя сурвэткі. У недастатковых аб'ёмах, паводле меркавання КДК, выраблюцца дзіцячыя ложкі і калыскі.

Штаны для хлопчыкаў, спадніцы для дзяўчынак саступаюць імпартным вырабам па каляровай гаме, набіваных малюнках, здольнасці тканіны ўтрымліваць форму і, нарэшце, цане. Так, штаны для хлопчыкаў беларускай вытворчасці каштуюць 165–182 тысячы рублёў, імпартныя — 132 тысячы. Таксама супрацоўнікі КДК па выніках праверкі канстатуюць, што дзве мадэлі дзіцячых калясак вытворчасці ААТ «ЭКТБ» (Мінск) цяжкія, дрэнна трансфармуюцца ў прагулачны варыянт, а таксама маюць высокую адпускную цану і, адпаведна, практычна не карыстаюцца попытам. Напрыклад, у адной з крамаў за 2011 год рэалізавана 40 дзіцячых калясак, з якіх толькі 10 — мясцовай вытворчасці. Пры гэтым імпартаваныя ў вобласць каляскі польскай вытворчасці маюць высокія спажывецкія характарыстыкі і карыстаюцца стабільным попытам.

Яшчэ адной праблемай называецца адсутнасць уласных якасных матэрыялаў і сыравіны. Напрыклад, ААТ «Жлобінская швейная фабрыка» на 70% шые вырабы для дзяцей з імпартнай сыравіны і матэрыялаў, бо айчынныя тканіны і фурнітура па шэрагу характарыстык не могуць быць выкарыстаныя для шыцця дзіцячага адзення.

КДК прапанаваў Гомельскаму аблвыканкаму прыняць меры па насычэнні спажывецкага рынку вобласці сацыяльна значнымі таварамі для дзяцей айчыннай вытворчасці, павелічэнні аб'ёмаў продажу гэтых тавараў.

Цяпер у пераліку спажывецкіх тавараў, рэкамендуемых для асваення прадпрыемствамі прамысловасці, значыцца каля 140 найменняў: ад цеплавентылятараў да кансерваў для дзіцячага харчавання. «Па выніках студзеня—кастрычніка 2012 года беларускія тавары ў структуры рознічнага тавараабароту склалі 71%, — цытуе намесніцу міністра гандлю Беларусі Ірыну Наркевіч «*Interfax*». — У тым ліку ў групе харчовых тавараў — 82,1%, нехарчовых — 60,3%». Праграма імпартазамяшчэння будзе рэалізоўвацца і надалей, але чыноўніца заявіла, што «было б няправільна» выраблять на тэрыторыі краіны тавар, які з поспехам выпускаецца іншымі, а да прымальнага якасці аналага «нам яшчэ трэба ісці дзесяцігоддзямі». То бок ідэя стварыць вытворчасці для выпуску дзіцячых калясак ці аналагаў кіндэр-сюрпрызаў ужо праз год сканала, не вытрываўшы праверкі на жыццяздольнасць.




## Распродажы па-беларуску

Апроч прэтэнзій да суадносінаў якасць—кошт, беларускі спажывец мае пытанні і да сістэмы гандлю. Асабліва калі ёсць з чым параўнаць. Добра, краіны «жорсткага капіталізму» недалёка, а па колькасці выдадзеных шэнгенскіх візаў Беларусь ірвецца ў лідары.

Па заходнія межы Беларусі ў гандлёвых цэнтрах Польшчы і Літвы можна паглядзець на гандаль, якога пакуль у нас няма: з сістэмамі зніжак, бонусаў, заахвочвальным маркетынгам і гэта далей.

Праўда, і ў Беларусі спрабуюць асвоіць метад вялікіх распродажаў. Вось паведамленне: у магілёўскіх універмагах «Цэнтральны» і «Юбілейны» 21 снежня, у дзень меркаванага канца свету па календары майя, зладзяць ноч распродажаў. Універмагі ў гэты дзень будуць працаваць да паўночы, прадаючы тавар на 15–20% танней. Каб максімальна задаволіць запыты спажыўцоў, будуць створаны запасы прадукцыі, якая карыстаецца попытам. Напрыклад, ужо завезены калекцыя жаночага адзення і бялізны, пашыраны асартымент шкарпэткава-панчошнай групы тавараў, закуплены дадаткова абутак, посуд, а таксама шырокі спектр бытавой тэхнікі пераважна айчыннай вытворчасці. Больш за тое, пакупнікам дапамогуць з дастаўкай набытых тавараў. Падобную акцыю не так даўно ладзіў і сталічны ГУМ. Але ў рэчаіснасці ўсё выглядае крыху інакш, чым падаецца на першы погляд.

Нядаўна намеснік міністра гандлю Ірына Наркевіч патлумачыла журналістам, што спецыфіка цэнаўтварэння ў краіне не дазваляе вось так узяць, ды зрабіць зніжку з цаны тавару на 30% ці 50%. Гандаль можа знізіць цэны толькі ў межах гандлёвай надбаўкі, каб атрымаць запаветны распродаж на заходні ўзор, кошт мусяць адначасова знізіць і вытворца, і прадавец. На пачатку гэтага года Мінгандаль ініцыяваў прыняцце закона аб сезонным продажы тавараў па зніжаных цэнах. Цяпер жа Наркевіч была вымушана прызнацца, што справа не скранулася з месца, бо ў краіне няма адпаведнай сістэмы — вытворчасці, рэалізацыі і гэтак далей.

## Паратунак у віртуале

Свет цяпер глабальны і амаль без межаў. Беларусь у гэтым таксама знаходзіць свае выгоды. Так, нават Міністэрства гандлю вымушанае канстатаваць, што ў краіне адбываецца імклівае развіццё інтэрнэт-гандлю. Толькі за апошнія 8 месяцаў інтэрнэт-крамаў у Беларусі стала на 735 больш. Усяго ў цяперашні час у рэестры маюцца звесткі аб 4 665 інтэрнэт-крамах. Пры гэтым у асноўным крамы рэгіструюцца ў сталіцы, а таксама на тэрыторыі Мінскай вобласці.

«Калі ў 2008–2009 гадах яны прадавалі, як правіла, кнігі, дыскі, бытавую тэхніку і аўтазапчасткі, то ў мінулым і гэтым гадах сюды дадаліся тавары для дзяцей (цацкі, харчаванне), спартыўныя тавары, мэбля, адзенне, абутак, сувеніры, будаўнічыя тавары», — падзялілася назіраннямі Ірына Наркевіч. Па дадзеных Белстата, у мінулым годзе тавараабарот інтэрнэт-крамаў па рэспубліцы склаў 800,5 мільярда рублёў. Гэта на 44,2% больш за ўзровень 2010 года. Але такія тэмпы росту чыноўнікаў не толькі радуюць, бо кантраляваць дзейнасць інтэрнэт-крамаў не так проста, як стацыянарных гандлёвых кропак, не ўсе яны зарэгістраваныя ў Гандлёвым рэестры.

Дарэчы, юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі, якія займаюцца дзейнасцю па рэалізацыі тавараў, выкананню работ, аказанню паслуг на тэрыторыі рэспублікі, могуць выкарыстоўваць для гэтых мэтаў інфармацыйныя сеткі, сістэмы і рэсурсы, але толькі знаходзяцца ў нацыянальным сегменце сеткі інтэрнэт, размешчаныя на тэрыторыі Беларусі і зарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку. Натуральна, законапаслухмянымі ёсць не ўсе гандляры.

Штогод павялічваецца колькасць актыўных карыстальнікаў інтэрнэту, і яны хутка знаходзяць выхады на актуальныя ды выгодныя замежныя гандлёвыя інтэрнэт-пляцоўкі. Аграмадныя пляцоўкі аўкцыёнаў Польшчы, Кітая, ЗША, праз якія працуюць у тым ліку і буйныя гандляры, дазваляюць набываць рэчы ў разы танней, чым у Беларусі. Нават з улікам кошту дастаўкі ды такой нязручнасці, як час на дастаўку.

«Паглядзіце на кошты ды якасць, параўнайце з беларускімі таварамі, і адразу знікнуць усе пытанні!» — гаворыць знаёмая маладая маці. Яна актыўна карыстаецца паслугамі замежных інтэрнэт-крамаў і аўкцыёнаў і для свайго дзіцяці (а на дзяцей традыцыйна традыцыя нямала грошай) ці не большую частку рэчаў замаўляе з-за мяжы. Дастаткова ўзяць у рукі калькулятар, паглядзець на дызайн, якасць рэчаў — і ацэнкі зручнасці ды выгоды сапраўды хутка расстаўляюцца не на карысць беларускіх вытворцаў-гандляроў.

РАТАЦЫЯ КАДРАЎ

# УГА ЧАВЕСА ЗАМЕНІЦЬ НІКАЛАС МАДУРА

Алег НОВІКАЎ

**8 снежня прэзідэнт Уга Чавес даручыў віцэ-прэзідэнту Нікаласу Мадура ў выпадку сваёй магчымай смерці працягваць справу баліварскай рэвалюцыі. Што можна чакаць ад Нікаласа ў якасці лідара Венесуэлы?**



Інтарэс да фігуры Нікаласа Мадура не выпадковы. Усе адзначаюць той факт, што Уга ўпершыню публічна дапусціў, што яго арганізм можа прайграць у барацьбе з ракам. Нагадаем, што эпапея цягнецца ўжо амаль 18 месяцаў. За гэты час камандантэ Уга тройчы вывозілі на Кубу на аперацыі, аднак пакуль хвароба ўпарта прагрэсіруе. Алею ў агонь падлівае жоўтая прэса. Так, шматлікія выданні апублікавалі сенсацыйныя меркаванні аднаго мексіканскага доктара, які, быццам, мае інфарматараў сярод кубінскіх дактароў, што даглядаюць пацыента Чавеса. Калі верыць таму мексіканскаму ўрачу, Чавесу засталося 3–4 месяцы.

Адпаведна канстытуцыі, у выпадку смерці прэзідэнта на працягу 30 дзён праводзяцца датэрміновыя выбары. Калі падзеі будуць развівацца па такім сцэнары, Чавес параіў суайчыннікам галасаваць менавіта за Мадура. На споведзь правадыра баліварскай рэвалюцыі свой адказ даюць яго паслядоўнікі. Вось ужо амаль тыдзень яны збіраюцца на вуліцах, каб калектыўна паклісціся ў вернасці Уга і пажадаць яму добрага здароўя.

Між тым, аналітыкі не выключаюць самага горшага і намагаюцца зразумець, якія наступствы будзе мець пераезд Мадура ў палац Мілафлорэс (рэзідэнцыя прэзідэнта). Калі меркаваць па каментарах, практычна ніхто не сумняваецца, што Мадура на хвалі спачування да нябожчыка лёгка пераможа кандыдата ад апазіцыі. Наколькі спраўдзіцца такі прагноз, можна будзе казаць ужо 16 снежня, калі ў некаторых штатах на фоне істэрыі вакол здароўя Чавеса пройдуць выбары губернатараў.

Для таго, каб нешта прагназаваць, трэба зразумець асобу пераемніка. І тут шмат праблемаў. Хаця сам Нікалас Мадура займае пасаду віцэ-прэзідэнта, назваць яго вельмі знакамітай фігурай дастаткова цяжка. У прынцыпе, любы палітык на фоне харызматычнага Чавеса выглядае блякла.

Пра Мадура вядома няшмат. Нарадзіўся ў Каракасе, добра вучыўся, аднак універсітэт не закончыў, паколькі быў перакананым мааістам. А ўсе мааісты ў той час лічылі, што трэба ні вучыцца, а ісці ў народ, каб навучаць грамадзян пастулатам марксізму-ленінізму. У выніку замест дыплома ВНУ Нікаласу дасталася спецыяльнасць кантралёра аўтобуса ў сталічнай кампаніі публічнага транспарту, якую ў Каракасе называюць «Метро». Тут жа, у «Метро», пачаліся і яго першыя палітычныя ўніверсітэты. Праз нейкі час ён узначаліў неафіцыйны прафсаюз працоўных кампаніі (адпаведна закону, супрацоўнікам «Метро» не дазвалялася мець прафсаюзы).

Акрамя таго, яшчэ юнаком Мадура запісаўся ў актывісты групоўкі «Сацыялістычная ліга», касцяк якой складалі мааісты. Ліга, падаецца, не была купкай дагматычных сектантаў, інакш бы на пачатку 1990-х гадоў яе лідары не звярнулі б увагу на маладога палкоўніка Уга Чавеса, які паспрабаваў у 1992-м арганізаваць пад прагрэсіўнымі лозунгамі вайсковы путч. Ліга была адным з ініцыятараў кампаніі за амністыю асуджанага Уга.

Пасля выхаду Чавеса Мадура і яго сябры з «Сацыялістычнай лігі» працягнулі яго раскрутку. Сам Нікалас заняўся непасрэдна стварэннем структуры пад Чавеса — «Руху за пятую рэспубліку» (MVR), у склад якой увайшлі шэраг лявацкіх арганізацый. У 1998 годзе ён адказваў за арганізацыю выбарчай кампаніі Чавеса. Па выбарчых спісах «Руху за пятую рэспубліку» Нікалас трапіў у парламент, дзе ў 2005–2006 гадах выконваў функцыі спікера. Ён лічыцца аўтарам тэксту новай канстытуцыі Венесуэлы, прынятай у 1999 годзе.

Адсюль, з пасады спікера, Мадура скочыў на пасаду міністра замежных спраў. Як кіраўнік дыпламатычнага ведамства Мадура праславіўся інцыдэнтам у аэрапорце Нью-Ёрка, адкуль ён ляцеў на радзіму пасля свайго антыамерыканскага спіча з трыбуны ААН. Падчас паліцэйскага кантролю на пасадцы Мадура затрымалі і абшукалі. Пасля амерыканскі МЗС прынёс яму прабачэнні. Другім вядомым фрагментам яго дзейнасці на пасадзе дырэктара дыпламатычнага дэпартамента быў канфлікт з Ізраілем. Пасля таго, як Мадура раскрытыкаваў аперацыю ізраільцян супраць сектара Газа, Тэль-Авіў абвясціў увесь штат венесуэльскага пасольства ў Ізраілі персонамі нон-грата.

Наступнай прыступкай у яго кар'еры была пасада віцэ-прэзідэнта. Праўда, тут Мадура сябе асабліва не праявіў. Магчыма, папросту часу ў яго яшчэ было малавата: гэтую пасаду ён заняў увосень мінулага года.

Таксама важна звярнуць увагу на асаблівасці асабістага жыцця Нікаласа. Ён ажаніўся з Сіліяй Флорэс — адной з сябраў групы лідараў чавескай руху, якая пасля сыходу мужа ў выканаўчыя органы замяніла яго на пасадзе спікера парламента. Гэту пару абвінавачвалі ў спробе «пралабіраваць» на дзяржаўныя пасады сваіх родных. Аднак у выніку следства супраць іх было прыпыненае.

Міжнародная прэса дае розныя і супярэчлівыя прагнозы наконт таго, што чакае Венесуэлу пры магчымым прэзідэнцтве Мадура. Шмат хто звяртае ўвагу на мааіцскае мінулае пераемніка Чавеса. Тое, што ён змог разарвацца з рэвалюцыйным рамантызмам, быццам, сведчыць пра яго прагматызм.

З іншага боку, Мадура як пераканаы марксіст вельмі звязаны з братамі Кастра. Лічыцца, што менавіта ён навучыў Чавеса, які пачынаў як наіўны прагрэсіўны дэмакрат, антыімперыялістычнай рыторыцы. СМІ таксама надаюць шмат увагі таму факту, што менавіта ў час, калі Мадура ўзначальваў венесуэльскі МЗС, Каракас пачаў выбудоўваць контуры новага геапалітычнага блоку з удзелам Расіі, Ірану, Пекіна. Таксама важна адзначыць, што Мадура і Чавес вельмі блізкія. Напрыклад, Мадура — адзіны з міністраў венесуэльскага ўраду, які заўсёды выязджаў з Чавесам на Кубу для аперацый. Наўрад ці з прыходам Нікаласа да ўлады магчымы хуткі адыход ад спадчыны Уга.

Між тым, некаторыя аналітыкі (выданне «Terra») лічаць, што выбар на карысць Мадура быў зроблены Чавесам, паколькі Нікалас навучыўся падтрымліваць баланс паміж рознымі фракцыямі чавескага лагеру. А гэта значыць, што першы час пасля прыходу да ўлады краіну чакае нестабільнасць унутры кіраўніцтва, што можа аслабіць інтарэс Венесуэлы да міжнародных праектаў.

Як бачым, пакуль Мадура застаецца цёмнай кабылкай. Што тычыцца самога Нікаласа, то ў першым публічным выступе ў якасці пераемніка ён, хваліючыся, паведаміў, што «Чавес — гэта народ, а народ — гэта Чавес», і таму да канца жыцця Чавеса людзі будуць верныя Уга.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГЕНАДЗЬ ЗЮГАНАЎ



Не так даўно ў некаторых расійскіх СМІ з'явіліся публікацыі пра тое, што ў лютым будучага года на з'ездзе КПРФ можа быць пастаўлена пытанне пра змену лідара партыі, галоўнага сістэмнага апазіцыянера Пуцінскаму рэжыму. Гэта ўскалыхнула апазіцыйны асяродак, дзе даўно падазраюць у Зюганаве чалавека Пуцінскай сістэмы, які займаецца мімікрыяй апазіцыйнай дзейнасці. Напрыклад, як ускосна прызнаў Дзмітрый Мядзведзеў, на прэзідэнцкіх выбарах 1996 года Зюганаў перамог Ельцына, аднак замест таго, каб патрабаваць справядлівага пераліку галасоў, першым павіншаваў ЕБН з перамогай. Асабліва радаваліся апошнім навінам незюганаўскія левыя, якія крытыкуюць Зюганава за дыскрэдытацыю ідэйнай спадчыны Леніна: напрыклад, КПРФ падтрымлівае клерыкалізацыю адукацыі і прапаганду рускага нацыяналізму. Аднак цяпер стала відавочна, што ніякай адстаўкі Зюганава на 15-м з'ездзе КПРФ не адбудзецца. Гэта вынікае са зместу інтэрв'ю першага намесніка старшыні ЦК КПРФ Мельнікава. У інтэрв'ю агенцтву «Інтэрфакс» Мельнікаў заявіў, што «лідарства Зюганава ў КПРФ ніхто не аспрэчвае» і што «ні на адной рэгіянальнай справаздачна-выбарчай канферэнцыі камуністаў пытанне пра змену федэральнага лідара партыі не ставілася». Увогуле, па словах Мельнікава, «партыя ганарыцца сваім нязменным лідарам». Рашэнне Зюганава застацца правадыром, на думку экспертаў, прывядзе да далейшай дэградацыі партыі. Так, паказальна, што на выбарах прэзідэнта 4 сакавіка 2012 года Зюганаў прайграў палітычнаму навічку Прохараву ў самых буйных расійскіх гарадах — Маскве і Санкт-Пецярбургу. У сваю чаргу, маладыя левыя арганізацыі, накшталт Левага Фронту, пакуль не здольныя заняць нішу КПРФ.

### МАХАМЕД ШОСТЫ



Кароль Марока Махамед стаў героем праграмы «Les guignols de l'info» — французскага аналагу вядомай расійскай праграмы «Цацкі», якую ў свой час рабіў на НТВ Віктар Шэндэровіч. Дакладней, не цэнтральнай праграмы, што выходзіць у Францыі, а яе франчызы ў Тунісе, аўтары якой робяць выпускі, арыентаваныя на аўдыторыю франкамоўных краін Паўночнай Афрыкі. Калі ў іншых краінах рэгіёну выпускі «Les guignols de l'info» ніякай асаблівай рэакцыі не выклікалі, то ў Марока адбыўся скандал. Аказваецца, па мясцовых законах, прадстаўляць манарха ў карыкатурах забаронена (рэдакцыя адной з газет Марока паплацілася за публікацыю малюнку караля закрыццём выдання і турэмнымі тэрмінамі для супрацоўнікаў). На думку ўраду, які ўзначальваюць ісламісты, цацачны персанаж — карыкатура, і таму трансляцыя праграмы на Марока павінна быць забаронена. Цяпер афіцыйны Рабат цісне на Туніс з-за перадачы, а самі аўтары «Les guignols de l'info» спрабуюць прадстаўляць караля Марока Махамеда на ўсяляکі выпадак больш пазітыўна. Так, у адной з апошніх праграм ён выратоўвае жанчын горада Касабланка ад візіту Даменіка Строс-Кана, экс-дырэктара Міжнароднага валютнага фонду, які пагарэў на сэксуальных скандалах. Паводле праграмы, Махамед і яго прэм'ер вырашаюць правесці эвакуацыю з гораду ўсіх прадстаўнікоў жаночага полу на час візіту Даменіка.

### ІСЛАМ КАРЫМАЎ



Прэзідэнт Узбекістана Карымаў, як піша незалежная ўзбекская прэса, стаў марыянеткай групы нацыяналістаў, якая сфармавалася ў яго атачэнні. Нібыта яны пераканалі ўзбекскага гаранта пачаць кампанію супраць Дзеда Мароза і Снягуркі. 10 снежня ўлады Узбекістана настойліва рэкамендавалі СМІ краіны не згадваць у навагодніх праграмах Дзеда Мароза, Снягурку, а таксама Бабу Ягу. Пры гэтым навагоднюю ёлку, прычым маленькую, дазволена паказваць на экранах і на старонках газет толькі на заднім плане. Па звестках, такое распараджэнне было зроблена ў рамках кампаніі барацьбы з масавай культурай. Журналісты адзначаюць, што ўчынкі ўладаў Узбекістана з'яўляюцца спробай узняць чарговую хвалю самаідэнтыфікацыі і нацыянальнай самасвядомасці. Аднак цяжка сказаць, наколькі перасled Новага года з'яўляецца справай нейкай нацыяналістычнай фракцыі ў прэзідэнцкай адміністрацыі, якая пачала набіраць вагу. Паведамленні пра рэпрэсіўныя меры да навагодняга свята ва Узбекістане сталі з'яўляцца з 2004 года. У 2005-м кіраўнік ташкенцкага аддзела народнай адукацыі забараніў адзначаць Новы год у школах. Сваю пазіцыю ён патлумачыў тым, што насельніцтва краіны мае права толькі на адно навагодняе свята — Наўруз, які традыцыйна адзначаецца ва Узбекістане ў дзень вясновага раўнадзенства. Усе астатнія святы, на яго меркаванне, не адпавядаюць ментальнасці карэннага народа, а таму недапушчальныя. Таксама не зразумела, наколькі рэпрэсіі супраць Новага года паслядоўныя. Дзед Мароз, Снягурка і Баба Яга забароненыя, аднак прэзідэнцкая навагодняя ёлка дасюль застаецца афіцыйным мерапрыемствам.

▸ **ВАЙНА**

# БЕЛАРУСКІЯ КОЛЕРЫ «ПАРЫЖСКАЙ ШКОЛЫ»

### Даведка

«Парыжская школа» (Ecole de Paris) — вызначэнне, што існуе з лёгкай рукі Андрэ Варно, які назваў ім пярэстую інтэрсупольнасць творцаў-нефармалаў: Дэрэн, Утрыльё, Мадыльяні, Пікаса і іншыя. Зараз так завуць класікаў, заснавальнікаў найноўшых накірункаў, што на пачатку XX стагоддзя як птушкі зляцеліся ў Парыж і звілі гнёзды на блаславёнай Гары Парнас (Манпарнас). На Манмартры ж, Гары Пакутнікаў, заселенай майстрамі старэйшага пакалення (XIX — пачатак XX стагоддзя), па большасці — этнічнымі французамі, схіляліся да імпрэсіяністычнага і постімпрэсіяністычнага бачання і адлюстравання навакольнай рэчаіснасці.

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Непазбежная і доўгачаканая выстава «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі», што будзе доўжыцца ў Нацыянальным мастацкім музеі (НММ) да сярэдзіны студзеня 2013 года, вымагае большай увагі, чым шараговая інфармацыя.**

## Арганізацыя выставы

Выстава здзейснена супольнымі намаганнямі НММ РБ, Нацыянальнай камісіяй па справах ЮНЭСКА і ААТ «Белгазпрамбанкам» пад старшынствам В. Бабарыка, які стаўся генеральным рухавіком і чальцом арт-праекта.

Арт-праект няблага падрыхтаваны і пададзены, утрымлівае дастаткова распрацаваную суправаджальна-адукацыйную частку: дакументальныя і мастацкія фота, біяграфічныя звесткі, дарэчныя мастацкія інсталяцыі і адмысловы інтэрактыў — «парыжскую кавярню»: з кубачкам кавы і сяброўскай тусовачнай гаманой. Дапаўняе асветныя высілкі музея адмысловая дакументальная стужка. У паліграфічны набор, апрача запрашальніка і плаката, увайшлі паштоўкі з рэпрадукцыямі твораў. У межах вернісажу была падрыхтавана прэзентацыя другога выдання кнігі Ул. Шчаснага пра няўрымслівых жыхароў славутага «Вулля», «Вілы Медзічы» — гэтай геніяльнай прыдумкі А. Бушэ.

Трохмоўны каталог выдадзены тыражом у 500 асобнікаў. Ён мае прадумана-структураваны выгляд і грунтоўна-падрабязны падыход у апісанні твораў, з добра распрацаваным навукова-даведачным апаратам, дакладнай перадачай пазнакаў. Ілюстрацыі пададзеныя ў поўным аб'ёме. Выданне, арыентаванае на прафесіянала, робіцца ўнікальным, а нятанны кошт — аб'ектыўна прымальным.

У экспазіцыю ўвайшло 6 адзінак з фондаў НММ, 3 — з калекцыі Музея Шагала, 39 — з прыватных калекцыяў Беларусі і Расіі, асноўная ж частка — 43 творы — набытая ААТ «Белгазпрамбанк» ва ўласнасць. Адзначым удалы экспазіцыйны падыход арганізатараў у падачы выставы. Шанюючы гледача, яны не пайшлі па прымітыўным, «блочна-манаграфічным» прынцыпе паказу мастакоў, але прапанавалі суцэльна-натуральную плынь «мастацкага часу» еўрапейскай сталіцы 1920–1940-х гадоў.

## У экспазіцыі…

Плынь часу тоіць і гаркаватавабны прысмак чорнай кавы, і, здаецца, няспешныя рытмы 20-х гадоў, і прамоклыя грудкі восеньскага золата на брукаванцы, і кастрычніцкі накцюрн дажджу, і лістападаўскія зазімкі, і старасвецкія відарысы тагачаснага Парыжу… Плынь, бы вір, забірае і падпарадкоўвае.


Роберт Генін «Ля крыніцы». 1913. Кардон, алей. 110×96. З калекцыі Аляксея Радзівонава

Асобныя з творцаў ужо няблага вядомыя ў Беларусі. Гэта і віцяблянін Марк Шагал, які пахаваны на каталіцкіх могілках Сэн-Поль дэ Ванс. Яго бліскучая персанальная выстава з фондаў Ерусалімскага музея таксама зараз працуе ў НММ…

Гэта і дзявяты сын краўца, чые працы каштуюць зараз мільёны еўра, — небарака Хаім Суцін, якому ў родных Смілавічах прысвечана мемарыяльная экспазіцыя. Мастак, што бачыў прыроду праз шкельца «драмы быцця» і пісаў яе, па выразе крытыка, «уласнай крывёй».

Гэта і Надзя Хадасевіч-Лежэ (1904 года нараджэння) з вёскі Асецішча ля Докшыцаў, канструктывісцкія творы якой так ашчадна захоўвала ад сурочлівага вока савецкіх чыноўнікаў дырэктар ДММ Алена Аладава. Яна на ўсё жыццё засвоіла трагічны досвед бацькі, арыштаванага 27 жніўня 1930 года ў Оршы і расстралянага нібыта за контррэвалюцыйную дзейнасць. На золку перабудовы творы Лежэ ўжо экспанаваліся ў Мінску.

Гэта і Восіп Цадкін (Віцебск, 1888 — Парыж, 1967), «выдатны французскі скульптар», як назваў яго Жак Шырак.

Але большасць з іх — мастакі, якія ў статыстычных рэйтынгах продажаў на сусветных аўкцыёнах хоць і не займаюць зорных пазіцыяў, але трывала пачуваюцца ў гісторыі мастацтва, і іх працы каштуюць не адзін дзясятак тысяч еўра.

Сярод іх сын рана памерлага інжынера Савелія з мястэчка Магільна Ігуменскага павета (зараз Узденскі раён) Яўген Зак (нарадзіўся 15.12.1884), які ў 1892 годзе ўжо разам з маці ў Варшаве. Па прыездзе ў 1902 годзе ў Парыж Яўген Зак змяніў некалькі навучальных установаў: Школу вытанчаных мастацтваў — майстэрню Ж.-Л. Жэрома, Акадэмію Каларосі, а ўжо пасля паездкі ў Італію трапіў да А. Ашбэ ў Мюнхен (1903 год).

Жыццё не надта заможнага мастака было насычана творчымі пошукамі і знаходкамі, выставамі ў розных кутках свету, вандраваннямі, удзелам у прафесійна арганізаваных супольнасцях (Таварыстве польскіх мастакоў — «Штука»), прафесарствам у Акадэміі Ла Палет, чыннасцю ў «Новым аб'яднанні мастакоў» (Мюнхен) і ці невыпадковым супрацоўніцтвам з мастакамі аб'яднаня «Forma». Дарэчы, супрацай вельмі нядоўгай, бо неўзабаве ён стаў адным з завадатараў эстэтычна супрацьлеглай фармістам асацыяцыі мастакоў «Rytm» (Варшава). Жонка Яўгена — мастачка з Чэнстахова Ядвіга Кон — заснавала пасля яго раптоўнай смерці ад сардэчнага прыступу ў 1925 годзе ў Парыжы галерэю «Zak», дзе выстаўляліся амаль усе мастакі з Заходняй Беларусі. Твораў Зака ў экспазіцыі вобмаль, але адзін з задуменна-самотных «Паяцаў» (П'ер), якіх ён шмат намаляваў у 1923 годзе, кранае музыкай светлага, прывіднага, рэнесансна-арыстакратычнага ўспаміну дзяцінства.

Крохкая чысціня, прыгажосць і непасрэднасць «ружова-блакітнага» дзяцінства ўвасобленая ў кранальным імпрэсіяністычным творы Якава Балглея «Партрэт дзіцяці». Сын равіна з Брэста Літоўскага (нарадзіўся ў 1891 годзе) пайшоў наперакор нацыянальна-рэлігійнай традыцыі і асмеліўся маляваць чалавека. Гэта ўжо было пасля таго, як бунтоўны юнак кінуў архітэктурнае аддзяленне Адэскай рысавальнай школы, каб працягнуць навучанне ў Парыжы.

Агаломшвае каларыстычны вадаспад Сэма Зарфіна, сына смілавіцкага гандляра скурамі, чый шлях да Парыжу быў даўжэйшы, чым у іншых, бо пралягаў з Віленскай школы не напрасткі — праз Берлін, але праз Зямлю Абетаваную ў Палесціне, службу ў брытанскім войску.

Міхаіл Кікойн (1892–1968) — сын гомельскага банкіра, які трапіў у Парыж, маючы падрыхтоўку ў майстэрні мастака Я. Кругера і школе І. Трутнева. Падчас Другой сусветнай вайны, застаўшыся ў акупаваным немцамі Парыжы, мастак насіў «жоўтую зорку», якая ўшчэнт пасварыла яго з сябрам віленскіх часоў — Суціным. Цягам творчага жыцця Кікойн, не зважаючы ні на што, не ўтаймоўваў бясклапотна-шчаслівы шал сонца сваёй палітры. Светаносныя палотны яго абуджаюць у свядомасці вобразы мінскага нонканфарміста Анатоля Ржэвуцкага. Суадносіны чалавека ў Кікойна з наваколлем — вёскай, горадам і сусветам увогуле — робіць яго жывапіс адметна філасафічным і вельмі чалавечным.


Яўген Зак. Арлекін (П'еро) Папера, гуаш, туш, аловак. З прыватнай калекцыі

Марыя Вераб'ёва-Стэбельска, якая працавала ў славутым «Вулії», згадвала Крэменя з Жалудка (нарадзіўся 28.07.1890) як «спакойнага, аптымістычнага, спагадлівага і ветлага» і самага прыемнага з тройцы (Суцін, Кікоін, Крэмень). Пінхус — дзявятае дзіця разбяра па дрэве — засвоіў экспрэсіяністычную манеру яшчэ ў школе ў Вільні. Натуральна, што для ўдзелу ў сваім першым «Салоне Незалежных» у 1914 годзе Крэмень абраў скульптуру. Мо таму свет яго пазнейшых вобразаў, абпаленых няшчадна-гарачымі праменямі сонца паўднёвай Францыі, прыхоўвае ў маляўнічай пластыцы моц скульптурнай формы.

Супрацьлеглыя драматычна-спружыненым творам Крэменя працы сына кавалья з Гародні Восіпа Любіча (1896 года нараджэння). Яго прасветлены, утаймавана-лірычны жывапіс, які перагукваецца з кампазіцыямі Паўла Южыка, — доказ таго, што майстар упэўнена трымаў сваю Сінюю Птушку.

Роберт Генін нарадзіўся 11 жніўня 1884 года ў мястэчку Высокае. Сын крамніка Генін быў «адкрыты» пецярбургскім калекцыянерам А. Радзівонавым, падараваўшым нам надзею зладзіць яго персанальную выставу на Радзіме. Генін стаўся адзіным «вяртанцам», хоць пачатак яго творчага шляху мала адрозніваўся ад сцежак іншых прыяцеляў-калег: пасля вучобы ў Клімавічах (1892–1898) была Школа Трутнева (1898–1900) і Адэская мастацкая вучэльня (1900–1902), у якой ён трапіў пад уплыў сацыялістычных ідэй. Роберт Генін атрымаў для паездкі ў Мюнхен у рысавальную школу Ашбэ ад клімавіцкага дабрадзея 80 рублёў і наказ «заўжды памятаць пра Радзіму»…

Ва ўсіх творах Геніна ў экспазіцыі пранізліва гучыць мелодыя адзіноты: і ў развітальным краявідзе «Зялёная царква ў Красовічах», і ў квяцістым партрэце «Мужчына з бэзам» (Анры Варно), і ці ледзь ня ў сваёй адарванасці ад каранёў адпачываючым «Балалаечніку» — персанажы, тысячы якіх у 1920-я раптоўна запоўнілі не толькі Канстанцінопаль, але кавярні і вуліцы Берліна ды Парыжа.

Адзінота душы, адсутнасць сям'і, нервовая знясіленасць і немажлівасць ніяк дапамагчы свайму народу («інваліду служыць няма чым») — усё гэта прывяло да трагічнай развязкі ўвосень 1941 года, да перадазіроўкі морфію.

Дыяпазон творцаў, з якімі перагукваюцца «мастакі парыжскай школы», шырокі: згадваецца і старэйшы Басаў, і Альгерд Малішэўскі з каларыстычнымі пошукамі 1960-х гадоў. Цешыць, што ў гэтым шэрагу годна глядзеліся б і маляўнічыя творы Віталя Чарнабрысава і іншых з ліку «не заўважаных» у 1970–1980-я гады.

## Уражанні

Углядаешся ў творы, суадносіш і параўноўваеш іх, знаходзіш новыя факты і аналогіі з жыцця і творчасці майстроў з Беларусі. Яны вызнавалі сябе як расійскія габрэі, узгадваныя ў «вольным свеце», навучаліся ў школах Германіі і Францыі ці ўвогуле былі самавукамі, што не зазналі аніякай школы. Радуешся мужнасці, жыццёвай энергіі і іх мэтаскіраванасці, радуешся іх нацыянальнай еднасці і ўзаемнасці ва ўсім. Радуешся жывым пачуццям і шчасліваму каханню, якое непазбежна адбівалася прысутнасцю сонца ў іх палітрах, часовай галечы і наступнаму дабрабыту... Радуешся пазбаўленню ад шмат якіх стэрэатыпаў, навязаных прапагандай, — да прыкладу, гібелі бацькоў Суціна ў Смілавіцкім гета, якія насамрэч памерлі ў 1932 і 1938 гадах. Радуешся, што «мастакі парыжскай школы» знаходзілі не толькі крытыкаў, але і «прыхільнікаў» (г. Стаін).

Радуешся, што творы іх можна глядзець (выстава працуе да 14 студзеня), і ўвесь час адкрываць штосьці новае. Экспазіцыя асвятляе адзін з гіпатэтычных накірункаў, у якім магло б крочыць мастацтва, каб не сацыяльныя землятрусы, таталітарны ізаляцыянізм і ідэалагічныя дыктаты стагоддзя…

## Музей прыватных калекцый

Выстава — пралог да запачаткавання Фонда Музея прыватных калекцыяў, які мусіць мець перасоўны характар. Рашэнне было абвешчана В. Бабарэкам, калі ён, быццам той Альфрэд Барнс у майстэрні Суціна ў 1922 годзе выдыхнуў: «Купляем усе!»

Музей — з'ява больш значная за зямное і штодзённае. Тым больш, што аналагі мінскай выставе прайшлі летась у «сталічных» гарадах Расіі, а экспазіцыйныя знаходніцтвы, што ўражваюць мінскага гледача, даўно вядомыя...

Да гонару Беларусі адзначым, што «Музей прыватных калекцыяў» ужо быў. У Віцебску ад 22 ліпеня 1993 года — першага дня першага «Славянскага Базару». Але за 19 гадоў існавання, замацаваўшы спеласць грамадзянскай супольнасці, ён быў зачынены ў першы дзень «Славянскага Базару–2012».

## «Формула калекцыі»

Са скрухай успрымаючы думку аб «затарможанасці» беларусаў, «незавершанасці» фарміравання» тытульнай нацыі і яе другаснасці, усё ж спадзяешся, што на гэты раз фундатар-дабрадзей дакладна і свядома вызначыць «формулу калекцыі», як гэта зрабіў гаспадар Маскоўскага музея мастацтва авангарда (ММА), 55-ы бізнесмен па версіі «Forbes» 2009 года, В. Кантар. Вызначаючы вартасць твораў і па адзінках набываючы іх — Суціна, Шагала, Цадкіна, Крэменя, Кікойна і іншых — ён меў на мэце сабраць «самае рускае… самае выдатнае». Будучы «бацькам сваіх дзяцей і сынам габрэйскага народа», праблемы з канцэпцыяй не меў.

Вярэдзіць душу каліва спадзеву, што беларускія культурніцкія аптавікі — збіральнікі мастацтва, усвядоміўшы сваё пакліканне быць сацыяльна і нацыянальна адказнымі перад сваім народам, выкажуць цікаўнасць да збірання (а потым і вывучэння) твораў Віленскай школы. Тых рэчаў, якіх нямала блукае дагэтуль на абсягах ад Варшавы, Прагі, Берліна, Парыжа… І мо тады пачне здзяйсняцца мара — другое «адраджэнне» традыцыяў Віленскай школы, што супольна з іншымі чыннікамі будзе спрыяць пашырэнню эстэтычнай і гуманістычнай прасторы ў Беларусі.

ВАЙНА

# ПЛАН «ВОСТРАЯ БРАМА»: ВЫЗВАЛІЦЬ ВІЛЬНЮ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У канцы чэрвеня 1944 года савецкія войскі пачалі аперацыю «Баграціён». Неўзабаве першыя чырвонаармейскія часткі падышлі да былой «рыжскай» мяжы, якая з 1921 па 1939 год падзяляла Беларусь на дзве часткі. Гэты факт непакоіў польскі эміграцкі ўрад у Лондане.**



Падпалкоўнік А.Кжыжаноўскі (Воўк), камандуючы аперацыяй Вострая Брама

Безумоўна, Савецкі Саюз быў хаўруснікам Вялікабрытаніі, ЗША і Францыі. Аднак палякі не пагаджаліся на страту сваіх усходніх ваяводстваў і хацелі бачыць сваю краіну ў межах да верасня 1939 года.

14 лютага 1942 года загадам тагачаснага польскага галоўнакамандуючага генерала Ул. Сікорскага Саюз узброенай барацьбы быў перайменаваны ў Армію Краёвую (далей — АК), атрады якой актыўна дзейнічалі не толькі на этнічных польскіх тэрыторыях, але і ў Заходняй Беларусі. Трэба адразу падкрэсліць, што ў складзе АК было шмат беларусаў-каталікоў, якія часцей змагаліся не за якую-небудзь палітычную ідэю, а за сваю зямлю.

## Акцыя «Навальніца»

У лістападзе 1943 года ўсе акругі АК атрымалі загад галоўнага каменданта генерала Т. Камароўскага аб пачатку так званай акцыі «Навальніца». У адпаведнасці з ім польскія партызанскія фарміраванні павінны былі праводзіць дыверсіі на камунікацыях нямецкіх войскаў. Як адзначае беларускі даследчык Я. Сямашка, палітычнай мэтай «Навальніцы» быў захоп кантролю над важнейшымі ваенна-стратэгічнымі, прамысловымі, адміністрацыйнымі і культурнымі цэнтрамі краіны, яшчэ да таго, як іх вызваліць ад немцаў савецкая армія.

Галоўным адміністратыўным цэнтрам паўночна-ўсходніх крэсаў была старажытная Вільня. Камандаванне АК разумела, што вызваленне гэтага гораду з-пад нямецкай акупацыі іх частак давала польскаму ўраду ў Лондане дадатковы козыр у спрэчцы са Сталінам. Больш таго, у польскіх партызан на Заходняй Беларусі быў досвед захопу добра ўмацаванага населенага пункта. У чэрвені 1943 года акаўцы правялі ўдалую аперацыю па авалоданню Іўянцом. Нямецкі гарнізон у горадзе складаўся з роты жандармерыі, батальёна беларускай паліцыі, гаспадарчай роты і некалькіх рот нямецкіх пілотаў, якія знаходзіліся на адпачынку. У азначаны час акаўцы атакавалі будынак жандармерыі і казармы. Адначасова былі перакрыты дарогі на Ракаў і Стоўбцы. Падчас бою на бок акаўцаў перайшлі беларускія паліцэйскія, што значна ўзмацніла сілы атакуючых. Немцы даволі ўпарта абараняліся ў будынках старых казарм. Неўзабаве на дапамогу палякам прыйшлі і... савецкія партызаны. Бой працягваўся 18 гадзін. У выніку нямецкі гарнізон быў знішчаны, а горад у нямецкім тылу быў вызвалены ад акупантаў.

## Падпалкоўнік «Воўк»

Аднак нягледзячы нават на гэтую і іншыя перамогі камандаванне АК разумела, што атака на Вільню — гэта зусім іншы маштаб баявых дзеянняў. 26 мая 1944 года генерал Камароўскі загадам 996/І прызначыў камандуючым Навагрудскай і Віленскай акругамі АК падпалкоўніка А. Кжыжаноўскага (псеўданім «Воўк»). Ён і прадставіў 12 чэрвеня 1944 года ў варшаўскай штабкватэры АК план пад кодавай назвай «Вострая брама».

У адпаведнасці з ім нямецкі гарнізон у Вільні павінны былі атакаваць 5 палявых груповак польскіх партызан. Першапачатковая дату правядзення акцыі прывязалі да дня, калі часткі Чырвонай Арміі дойдуць да Смаргоні і Сол. Аднак пазней камандаванне АК прызначыла пачатак аперацыі «Вострая Брама» на ноч з 7 на 8 ліпеня 1944 года. Адначасова з правядзеннем атакі на Вільню іншым атрадам АК быў адданы загад правядзення дыверсій супраць нямецкіх войскаў у раёне Ашмян, Баранавічаў, Слоніма, Ліды, Юрацішак. 4 ліпеня 1944 года часткі 3-га Беларускага фронту перайшлі лінію мяжы, існаваўшай да 1939 года.

Тады кіраўніцтву АК стала зразумела, што Чырвоная Армія падыдзе да Вільні раней, чым гэта падавалася палякам. Штаб АК прыняў рашэнне распачаць атаку на нямецкі гарнізон Вільні на суткі раней. На жаль, пра перанос часу аперацыі не былі своечасова праінфармаваныя камендант Віленскага гарадскога гарнізона АК «Людвік», камандзір паўночнага злучэння «Венгельны», камандзір 6-й брыгады «Конар». Частка польскіх камандзіраў, адчуваючы небяспеку прамога сутыкнення з савецкімі войскамі, у апошні момант адмовілася ад удзелу ў «Вострай браме». У выніку з запланаваных 10 тысяч жаўнераў пад Вільняй АК змагла выкарыстаць толькі 6 тысяч, якім супрацьстаяла, па розных падліках, каля 17 тысяч немцаў. У 2 гадзіны ночы акаўцы пайшлі ў атаку на добра ўмацаваныя пазіцыі гітлераўцаў.

## Атака

Галоўную задачу выконвалі падраздзяленні пад камандаваннем маёра А. Аляхновіча і маёра Ч. Дэмбіцкага. У раёнах Грыбішкі, Гуры, Віленская калонія наступаючых затрымаў шчыльны кулямётны агонь з нямецкіх дотаў. Хутка польскія жаўнеры пачалі сустракаць першыя савецкія вайсковыя аддзелы. Так, капітан Б. Загурны са сваімі людзьмі дапамог наступленню савецкай 97-й Віцебскай пяхотнай дывізіі. Першая брыгада Віленскай акругі АК наступала сумесна з байцамі 277-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі. Дарэчы, камандзір гэтай дывізіі, генерал-маёр Белкін-Гладышаў выдаў польскаму падраздзяленню падзяку, у якой, у прыватнасці, адзначалася, што «польскія салдаты змагаліся за авалоданне Вільняй мужна, і брыгада заслугоўвае права карыстацца ўсімі неабходнымі прывілеямі».

Акаўскія падпольшчыкі ў Вільні ўласнымі сродкамі захапілі правябярэжную частку горада і сумесна з савецкімі падраздзяленнямі атакавалі левы бераг. Найбольш жорсткія баі адбыліся на вуліцы Субоч. Там знаходзіўся нямецкі бункер і некалькі зенітак. Цаной жыцця дзясяткаў савецкіх і польскіх салдат праз два дні ўдалося знішчыць фашысцкі гарнізон. Усяго ў баях з немцамі падчас аперацыі «Вострая брама» загінула 500 жаўнераў Арміі Краёвай, яшчэ каля 1000 было паранена.

З 9 ліпеня ў правабярэжнай частцы горада дзейнічала польская камендатура. У сваю чаргу, левы бераг Віліі знаходзіўся пад юрысдыкцыяй савецкага камандавання. 13 ліпеня падхарунжы Е. Енч і капрал А. Рыхтер паднялі на вежы Гедыміна польскі сцяг. У гэты ж дзень аддзелы АК пад Краўчунамі ўступілі ў бой з адступаючымі з Вільні часткамі нямецкіх войскаў і разбілі іх. У палон было ўзята каля 1000 гітлераўцаў, якіх палякі перадалі Чырвонай Арміі.



Акаўцы

## Турма замест ордэна

Пасля вызвалення Вільні савецкае камандаванне пачало перамовы з падпалкоўнікам Кжыжаноўскім аб разбраенні польскіх частак і стварэнні асобнага польскага корпусу. У гэты час польскія аддзелы пачалі акружацца падраздзяленнямі НКУС. У расійскім гістарычным архіве захоўваецца даклад Л. Берыі Сталіну адносна польскіх фармаванняў у Вільні. У дакуменце наркам падкрэсліваў: «Наяўнасць польскага войска дэзарыентуе мясцовае насельніцтва. Многія думаюць, што гэта польская армія Берлінга. [...] 16 ліпеня ў раён Вільні намі перакідваецца адна дывізія ўнутраных войскаў НКУС і 4 памежатрады».

14 ліпеня 1944 года Кжыжаноўскі быў запрошаны на сустрэчу з камандаваннем 3-га Беларускага фронту. Польскі афіцэр быў у добрым настроі, калегам ён паўтараў фразу: «Бачыце, што не змаглі зрабіць палітыкі на зялёным сукне, зробім мы, салдаты». Аднак 17 ліпеня ў штабе Івана Чарняхоўскага польскі падпалкоўнік быў арыштаваны і змешчаны спачатку ў віленскую турму, а потым перавезены ў маскоўскую Лубянку.

Далейшы лёс гэтага чалавека нагадвае шпіёнскі дэтэктыў. Знаходзячыся ў лагеры ў Грязёўцу, ён здзяйсніў удалы пабег і вярнуўся ў Вільню, дзе спрабаваў схавацца ў польскім консульстве. Там яго зноў арыштоўваюць, вяртаюць у Бутырку, аднак хутка адпускаюць у Польшчу. Праз год Кжыжаноўскага арыштоўвае польская палітычная паліцыя UB. Падпалкоўніка абвінавачваюць у акцыях супраць савецкіх партызан на Віленшчыне. У 1951 годзе ён памёр ад сухотаў у турэмным шпіталі.

## Розныя лёсы

Пасля арышту кіраўніцтва Віленскай і Навагрудскай акруг АК атрады польскіх партызан спрабавалі ўратавацца ад НКУС у Рудніцкай пушчы, аднак шмат з іх трапіла ў акружэнне. Усяго ў руках савецкіх спецорганаў аказалася некалькі тысяч акаўцаў. Шмат хто з іх будзе сасланы на працу ў Варкуту. Некаторыя жаўнеры і афіцэры ўступяць у народнае Войска Польскае і працягнуць змагацца з нацыстамі ў шэрагах 1-й арміі ВП. Так скончылася дзёрзкая і гераічная аперацыя «Вострая брама».

БУДЗЬМА

# КУЛЬТУРНЫ ГРАДУС ВІЦЕБСКА: ПЛЮС ЦІ МІНУС?

**Алесь ПЛОТКА**

**Віцебскае МГА «Гісторыка» прадставіла прэзентацыю шляхецкіх баляў. Калі 21 снежня канец свету ўсё ж адбудзецца, чаму б ні сустрэць яго балем, а калі не адбудзецца, то ў Віцебску ўжо дакладна ведаюць, чым заняцца ў 2013-м годзе.**

Балі — адзін са складнікаў серыі ток-шоў пад агульнай назвай «Культура паляпшае жыццё!».

4 снежня ў Віцебску сабраліся разам прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і журналісты, гісторыкі і прамоўтары, музыкі і чыноўніцтва, каб абмеркаваць культурны градус горада.

У вітальным звароце Ніна Шыдлоўская, каардынатар кампаніі «Будзьма беларусамі!», патлумачыла і абгрунтавала слоган кампаніі «Культура паляпшае жыццё!», падзялілася планамі на далейшую дзейнасць кампаніі ў рэгіёнах, у межах якой чакаюцца публічныя прэзентацыі і лагічны працяг Кірмашу праектаў, які ўжо распачаўся ў Магілёве.

Каб праяўленая самастойна ініцыятыва не гублялася, знаходзіла магчымых партнёраў і была добрым фундаментам для культурніцкай дзейнасці ў горадзе, кампанія «Будзьма беларусамі!» абвясціла старт «Кірмашу праектаў».

Кожная грамадская ініцыятыва ці асобны чалавек у Віцебску можа падрыхтаваць прэзентацыю свайго праекту/ідэі, які жадае правесці ў сваім горадзе. Найлепшыя праекты будуць прапанаваныя ўладам для ўключэння ў план культурнай дзейнасці. Кірмаш пройдзе ў два туры. У фінале будуць прэзентаваныя найлепшыя праекты. Фармат — слайд- ці відэапрэзентацыя ў межах 5 хвілін.

Свае прэзентацыі можна перадаць рэгіянальнаму каардынатару кампаніі «Будзьма беларусамі!» па Віцебскай вобласці Уладзіміру Булаўскаму (bulavskiv@gmail.com, +375 29 8940517).

ІМПРЭЗЫ

# «КАЛЯДУ НА ДУБА» І АЎТАРАЛІ: ЗІМОВЫЯ ЗАБАВЫ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

**Гэтай зімою беларусаў і гасцей краіны будуць забаўляць сучасным аўтамабільным ралі ды традыцыйнымі абрадамі.**

Нацыянальнае агенцтва па турызме прадставіла зімовыя турыстычныя мерапрыемствы ў Беларусі. Адным з найбольш значных мерапрыемстваў снежня будуць Міжнародныя спаборніцтвы па аўтамабільным ралі «Калядныя ралі», якія пройдуць у лесапарку «Ляснічаўка» ў Браславе.

Напрыканцы снежня — пачатку студзеня па ўсёй краіне пройдуць народныя гулянні каля навагодніх ёлак, канцэрты, феерверкі, спартыўныя мерапрыемствы, ранішнікі для дзяцей. У Мінску пераднавагодняя тыдзень пачнецца святочным шэсцем Дзядоў Марозаў і Снягурак і ўрачыстым запальваннем агнёў на цэнтральнай ёлцы Мінска на Кастрычніцкай плошчы. Святочныя мерапрыемствы будуць арганізаваныя ў рэзідэнцыі Дзеда Мароза ў Белавежскай пушчы.

У снежні-студзені ў Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці на фальклорна-міфалагічнай сядзібе Зюзі Паазерскага будзе арганізавана тэатралізаванае прадстаўленне «У Госці да Зюзі Паазерскага».

У першай палове студзеня ў вёсцы Залейкі Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці адбудуцца тэатральныя прадстаўленні ў казачнай сядзібе Дзеда Зімніка і Бабы Завірухі.

Напярэдадні праваслаўнага Раства, то бок 6 студзеня, у Лепельскім раёне Віцебскай вобласці пройдзе традыцыйны абрад «Жаніцьба Цярэшкі». Абрад мае статус нематэрыяльнай каштоўнасці і праводзіцца ў адпаведнасці з традыцыямі беларускай культуры. Народнае гулянні ладзіліся, каб моладзь з розных вёсак магла весела і нібы выпадкова пазнаёміцца. Кожны мужчына ў гэты вечар становіцца Цярэшкам і выбірае сабе спадарожніцу. Асноўны сэнс забавы заключаецца ў тым, каб згуляць жартаўлівае вяселле.

13 студзеня ў вёсцы Семежава Капыльскага раёна Мінскай вобласці правядуць абрад «Калядныя Цары», які занесены ў Спіс сусветнай нематэрыяльнай спадчыны. У народнай забаве ўдзельнічаюць маладыя мужчыны (так званыя «цары»), убраныя ў спецыяльныя касцюмы. Працэсія «цароў» наведвае хаты сялян і разыгрывае драму «Цар Максіміліян».

21 студзеня ў вёсцы Навіны Бярэзінскага раёна пройдзе традыцыйны абрад «Цягнуць Каляду на дуба». Удзельнікі абраду будуць праводзіць Каляду, цягнуць па вуліцах да высокага дуба барану, на якой стаіць гаршчок з куццёю, альбо кола з багата ўпрыгожаным снапом.

Акрамя таго, у студзені ў Брэсце пройдзе 25-ы Міжнародны фестываль класічнай музыкі «Студзеньскія музычныя вечары», у Мінску — міжнародны фестываль лічбавага мастацтва «Terra Nova».



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1306

Падпісана да друку 14.12.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.